—Людзьмі звацца!
Янка Купала

# ЛіМ
ГАЗЕТА ТВОРЧАЙ ІНТЭЛІГЕНЦЫІ БЕЛАРУСІ
ЛІТАРАТУРА І МАСТАЦТВА

ПЯТНІЦА
7
ЖНІЎНЯ
1992 г.
№ 32 (3650)
ВЫХОДЗІЦЬ з 1932 г.
КОШТ — 50 кап. (Па падпісцы — 10 кап.)



## «ЛіМ»—93

Вось і надышоў час падпіскі, час праверкі: «ЛіМа» — на патрэбнасць чытачам, чытачоў — на вернасць «ЛіМу». Спадзяёмся, што вытрымаем гэтае выпрабаванне: мы — не страціўшы сваіх сяброў і аднадумцаў, чытачы — падтрымаўшы ў няпросты час сваю газету.

Не здзіўляйцеся новаму кошту падпіскі: на год — 78 рублёў, на паўгоддзе — 39 рублёў, на тры месяцы — 13 рублёў. У параўнанні з леташнім ён павялічыўся ў 15 разоў. Мы, як і іншыя выданні, вымушаны былі пайсці на гэта з-за жорсткіх умоваў, пастаўленых нам поштай і «Саюздрукам».

Нагадваем наш індэкс — 63856.

**Выпісвайце «ЛіМ»!**



Для многіх людзей мастацтва крушэнне «сацыялістычнага рэалізму» як адзіна «правільнай» і адзіна магчымай формы мыслення было калі не жыццёвай драмай, дык вельмі непрыемным сюрпрызам. Яно і не дзіўна. Усё свядомае жыццё звяраў чалавек час па гадзінніку Спаскай вежы, а думкі — па партыйных дырэктывах; не меў канфліктаў з уладай і праблем з ганарарам; меў самапавагу і самаўпэўненасць: з пагардай паглядаў на тых, хто «жыць не ўмее» — усялякіх «нефармалаў», «авангардыстаў», «нацыяналістаў»...

Аляксею МАРАЧКІНУ шкадаваць няма аб чым, бо канфармістам і кан'юнктуршчыкам ніколі не быў. Яго творчасць не падзяляецца на «даперабудовачную» і «пасляперабудовачную». Ён ніколі не браў да галавы «ценные указания», ад каго б яны не ішлі. Рабіў тое, што адпавядала ягонаму душэўнаму ладу, сумленню, ягонаму разуменню прыгажосці.

Гэты здымак зроблены некалькі месяцаў таму назад у Доме літаратара падчас прэм'еры дакументальнага фільма пра творчасць Аляксея Марачкіна.

Фота У. ПАНАДЫ.

# У РАМКАХ СТЭРЭАТЫПАЎ

Праектныя прапановы рэспубліканскіх конкурсаў на помнікі Францішку Багушэвічу для Кушлян і Кастусю Каліноўскаму для Гародні экспанаваліся ў менскім Палацы мастацтваў. У абодвух выпадках, як мне падаецца, нельга вылучыць праекты, якія варты рэалізацыі. Гэта можа быць толькі першая стадыя распрацоўкі.

Стэрэатыпы колішняй «манументальнай прапаганды» найбольш яскрава выявіліся ў праектах помніка Каліноўскаму. Мяркуйце самі — вы бачыце іх на здымках. Відаць, шлях пераадолення выяўленчасці стэрэатыпаў будзе на Беларусі даволі доўгім. Паскорыць гэты працэс зможа толькі новая генерацыя творцаў.

**П. ВАСІЛЕЎСКІ.**









БЕЛАРУСКІ ГІМН

# Адпавядае высокім ідэалам

Набліжаецца да завяршэння конкурс на тэкст і музыку новага Дзяржаўнага гімна Рэспублікі Беларусь. Большасць з нас ужо маюць досыць поўнае ўяўленне аб усіх варыянтах, якія выйшлі ў фінал. Усе сем мелодый неаднаразова прагучалі па радыё. Падыходзіць час зрабіць канчатковы выбар, які, на нашу думку, з'яўляецца вельмі адказным момантам у нашай гісторыі. Надзвычай важна, якая музыка будзе суправаджаць станаўленне новай беларускай дзяржавы. Ці будзе яна весці нас у будучыню, ці, наадварот, ва ўчарашні дзень. Менавіта такія думкі ўзнікаюць, калі слухаеш некаторыя варыянты. Яны створаны па лепшых узорах былых савецкіх гімнаў. Напрыклад, пачуўшы ўступ да гімна «3-ці варыянт», міжволі чакаеш, што далей грымне «Союз нерушимый республик свободных...» Той жа рытм, той жа тэмп. Адным словам, барабанны пошчак, суцэльны аптымізм, заклік да «светлай будучыні». А тым часам, тэкст быццам бы патрыятычны, скрозь успамінаецца Пагоня, бел-чырвона-белы сцяг. Але ўсё выглядае штучна, як быццам бы напісанае на патрэбу дня, а не ад глыбіні разумення нацыянальных праблем.

Не выклікаюць задавальнення і «О, фартуна», «А хто там ідзе», бо таксама мелодыі іх не маюць сваёй адметнасці, а тэксты перанасычаны, грувасткія, іх цяжка будзе запомніць.

Безумоўна, значна цікавей слухаюцца беларускія гімны, якія ўвайшлі ў гісторыю — «Пагоня», «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», «Магутны Божа». Яны заслугоўваюць усялякай пашаны, бо ўжо даказалі сваю жыццёвую сілу і незалежна ад таго, ці стане каторы з іх дзяржаўным, яны будуць і надалей гучаць сярод беларусаў. Два першыя былі створаны ў пэўныя гістарычныя перыяды, калі патрэбны быў заклік да змагання за волю народа. Таму для іх характэрны імклівы тэмп і змагарны сэнс тэксту, які часам нават здаецца ваяўнічым. Для свайго часу яны былі адпаведнымі, таму і набылі такую папулярнасць сярод тых, хто змагаўся за беларускасць.

«Магутны Божа» М. Равенскага на словы Н. Арсенневай прысвечаны вечнай тэме, гэта гімн — малітва, зварот да сусветнага розуму. Мноства людзей бачыць у ім Бога, але і для атэіста таксама павінен быць зразумелы зварот да агульначалавечых каштоўнасцяў, да здаровага сэнсу. Не багацця, не іншых даброт просяць беларусы словамі гэтага гімна, а толькі самага неабходнага — мець магчымасць працаваць на сваёй зямлі і спажываць плён ад працы рук сваіх. Для другіх народаў гэта звычайная і зразумелая справа, а для нас ужо цэлыя стагоддзі— недасягальная мара. У гэтай мудрай сутнасці ўся веліч нашага народа. Таму, на нашу думку, не маршавыя, натхняючыя на подзвігі мелодыі мы павінны абраць для нацыянальнага гімна, а менавіта гэтую велічную і адначасова простую і вечную, як хлеб, як зямля, мелодыю — «Магутны Божа». Тым больш, што і ад чарнобыльскай бяды нас уратуе хіба што малітва. Для многіх з нас, выхаваных на ваяўнічым атэізме, ужо сама прысутнасць слова Бог у гімне выглядае непрымальнай. Але ж успомнім, што гімн Злучаных Штатаў Амерыкі, напрыклад, мае назву «Божа, багаславі Амерыку».

Трэба адзначыць, таксама, што гімн «Магутны Божа» мае невялікі тэкст з трох слупкоў, які лёгка запамінаецца і выразны па гучанні.

Хацелася б выказаць нашы меркаванні і наконт выканання гэтага твора. На радыё ў конкурснай праграме гімн быў выкананы «а ля капэла» хорам, з перавагаю жаночых галасоў. Абраная манера выканання здзіўляе. Інструментальнае гучанне твора, як нам здаецца, павінна быць абавязковым для дзяржаўнага гімна, у гэтым ёсць практычная патрэба. Спевы хору без інструментальнага суправаджэння звузілі ўяўленне пра яго музычную адметнасць, нават унікальнасць. Равенскі стварыў магутную па гучанні мелодыю, але яна ў такім выкананні не праявілася. Не данесены да слухача і надзвычай глыбокі сэнс тэксту гімна, бо словы амаль не праслухоўваюцца, а зліваюцца ў адзіны, часам нават манатонны спеў.

Нядаўна мы праслухалі запіс гімна ў выкананні Данчыка. Мелодыя набыла іншы сэнс, яна стала гучаць, як малітва асобнага чалавека, кожнае слова выразнае, выдатнае інструментальнае суправаджэнне.

Падумалася, а ці не лепш было б, сапраўды, выконваць мелодыю сольна, на фоне хору — малітва кожнага чалавека і малітва народа, так як яно ёсць у жыцці, абавязкова з музычным суправаджэннем. Варта прыгледзецца да сучаснай гімнавай культуры ў свеце. Хлопчык выдатна праспяваў гімн Швецыі на ўрачыстым адкрыцці нядаўняга чэмпіяната па футболу. Там жа сольна быў выкананы гімн Францыі. А мы чамусьці можам спяваць толькі хорам. Сёння дзяржаўныя гімны ў свеце набываюць іншы сэнс. Гэта ўжо не толькі патрыятычныя матывы, заклікі да змагання, ухваленне, але найперш, выражэнне духоўнай існасці таго ці іншага народа, яго адметнасці, культурнага ўзроўню дзяржавы.

Нам уяўляецца, што гімн «Магутны Божа» якраз і адпавядае гэтым высокім ідэалам, адлюстроўвае нацыянальны характар народа, яго імкненні і надзеі, а таксама унікальны па мастацкіх вартасцях і не мае аналагаў па ідэі і змесце ў параўнанні з гімнамі іншых дзяржаў.

Ён можа стаць духоўным апірышчам нацыі ў час цяжкіх выпрабаванняў.

**По даручэнні супрацоўнікаў Архіва-музея літаратуры і мастацтва Рэспублікі Беларусь — Ганна СУРМАЧ.**

---

дзяржавы. Першыя праявы гэтага з'явіліся ў заходніх абласцях Беларусі; у выпадку паспяховасці рэформ у Расіі можна чакаць праяў сепаратызму і на ўсходзе.

Другая небяспека зыходзіць ад «наменклатурнай» прыватызацыі, якая можа прывесці да таго, што клас новых капіталістаў будзе папаўняцца ў асноўным з дзвюх крыніц — з былой наменклатуры ды з «ценявой эканомікі». І першым і другім уласцівае імкненне да манапалізму і ўстанаўлення мафіёзных сувязяў. Гэта можа прывесці да надзвычай жорсткай эксплуатацыі работнікаў і да сур'ёзнага зніжэння іх дабрабыту. Адсутнасць традыцый дэмакратычных форм барацьбы за свае правы і негвалтоўнага вырашэння сацыяльных канфліктаў, некалькі дзесяцігоддзяў бальшавіцкае прапаганды праз усе сродкі інфармацыі (з дапамогай мастацтва) на працягу амаль усяго свядомага жыцця чалавека, у святле якой найбольш прывабна выглядаюць крайнія, гвалтоўныя сродкі барацьбы, — усё гэта разам можа прывесці да ўзмацнення пазіцый неабальшавіцкіх груповак, і нават да захопу імі ўлады, і, такім чынам, да паўтарэння нашага пакутніцкага шляху. Прычым, я думаю, вяртанне камунізму наўрад ці магчымае ў ранейшай, добра нам знаёмай форме. Перш за ўсё з-за таго, што пацярпела крах яго навуковая аснова, і зараз цяжка ўявіць сабе навукоўца, які зноў асмеліцца ўскласці на пралетарыят ролю гегемона. Але нарабіць хаосу і гвалту яны могуць.

Сітуацыя, на маю думку, ускладняецца тым, што беларусізацыя ў наш час стала дзяржаўнай палітыкай чыста механічна, у выніку палітычных працэсаў, а менавіта — краху саюзнай, імперскай па сваёй сутнасці, камуністычнай партыі. Спрэчкі ж вакол нацыянальнага пытання, пытання неабходнасці адраджэння мовы, якія пачаліся яшчэ на этапе існавання культурна-гістарычных суполак, дагэтуль яшчэ не скончаныя. Аргументацыя з боку прыхільнікаў беларусізацыі носіць пераважна маральна-этычны характар — «сорамна не ведаць роднае мовы» ці «сорамна не ведаць мовы народа, на зямлі якога жывеш».

Цяпер, пасля вырашэння галоўнай палітычнай праблемы — разбурэння камуністычнай манаполіі на ўладу, на першы план у Беларусі выходзіць нацыянальнае адраджэнне. І спрачацца давядзецца ўжо не з камуністамі, а з сучаснымі дэмакратамі-ліберcаламі, якія з пазіцый класічнага лібералізму будуць патрабаваць захавання «статус-кво», за юрыдычнае замацаванне існуючай моўнай сітуацыі на Беларусі. Таму патрэбна распрацоўка сур'ёзнай навуковай аргументацыі адраджэння беларускай мовы.

Надышоў час вярнуцца да, так бы мовіць, нефармальных форм прапаганды беларускай мовы, гісторыі і культуры, выкарыстоўваючы для гэтага новыя магчымасці. Грамадская актыўнасць прыхільнікаў беларушчыны апошнім часам знізілася з-за таго, што функцыі па адраджэнні мовы і культуры быццам бы ўзяла на сябе дзяржава. Але апублікаваныя ў «ЛіМе» выступленні дэлегатаў апошняй канферэнцыі ТБМ выклікаюць вельмі сумныя разважанні. Калі раней мне здавалася, што ў нашых спецыфічных умовах адзіным гарантам далейшага існавання і развіцця беларускай мовы, правадніком беларусізацыі можа быць толькі дзяржава, а адзінай крыніцай фінансавання — дзяржаўны бюджэт, то, на маю думку, зараз трэба прызнаць, што нашыя спадзяванні на дзяржаву ў гэтым застаюцца марнымі. Дзяржава зараз слабая з прычыны эканамічнага крызісу, больш за тое, у далейшым дзяржава будзе працягваць «слабець», бо яна дэмакратызуецца, а дэмакратычная дзяржава мусіць як мага меней умешвацца ў жыццё грамадства; нарэшце, магчыма змяненне акцэнтаў у нацыянальнай палітыцы ў выніку новых выбараў.

Дзеля стымулявання вытворчасці гэты ці новы ўрад будзе вымушаны паменшыць падаткі, што на першым этапе прывядзе да змяншэння паступленняў у бюджэт, а гэта значыць, што ўраду прыйдзецца эканоміць на сацыяльных выплатах, перш за ўсё на фінансаванні адукацыі і культуры. Гэта ў сваю чаргу прывядзе да змяншэння ўплыву дзяржавы ў сферы адукацыі і культуры і адпаведнага пашырэння ўплыву ў гэтай сферы прыватнай ініцыятывы. Вынікі гэтага пры нашай моўнай сітуацыі няцяжка ўявіць. У гэтых умовах беларушчына выжыве толькі тады, калі знойдзе альбо створыць альтэрнатыўныя недзяржаўныя крыніцы фінансавання.

**Віктар СЦЯПАНАЎ,**
**старшы навуковы супрацоўнік Музея драўлянай скульптуры.**
г. Орша.

# КРЫТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ — РАДЫКАЛЬНЫЯ МЕРЫ

**Яўген ШЫРАЕЎ,**
прафесар, доктар тэхнічных навук.

У БЕЛАРУСАЎ ёсць усе шанцы адрадзіць родную мову. Літаратурная мова жыве сярод перадавой інтэлігенцыі, а гутарковая — сярод сялян, галоўным чынам, заходніх абласцей рэспублікі. Увогуле, вызначальным фактарам у гэтым пытанні з'яўляецца тое, што Беларусь мае статус незалежнай краіны, у якой дзяржаўнай з'яўляецца мова карэннага насельніцтва.

З апошніх публікацый па пытаннях нацыянальнасці і мовы маю ўвагу прыцягнуў артыкул С. Польскага «Брэйк-даўн» па-беларуску?» («ЛіМ» за 24.01. 1992 г.). Усе галоўныя высновы ў артыкуле пабудаваны на статыстычных дадзеных апошніх перапісаў насельніцтва, якія ў Беларусі характарызаваліся «ціхай», але пры гэтым даволі актыўнай русіфікацыяй беларусаў. Хоць крытычны стан беларускай мовы больш чым відавочны, тым не менш можна сцвярджаць, што далёка не кожны беларус, які кепска валодае беларускай мовай, пры апытанні быў схільны адносіць яе не да роднай. Гэта, на маю думку, С. Польскі не ўлічвае. Увогуле, нягледзячы на мноства статыстычных дадзеных, артыкул атрымаўся недастаткова аб'ектыўным, аднабаковым.

Але ж ёсць у ім карысныя дадзеныя па шэрагу аспектаў праблемы і асабліва пра вынікі Чарнобыля. Толькі ці такога зместу патрэбен артыкул для беларускага чытача? Аўтар абмежаваўся канстатацыяй сумных фактаў, а было б нашмат карысней, калі б С. Польскі больш глыбока прааналізаваў прычыны, якія прывялі да такога бядотнага становішча з культурай і мовай і даў нейкія рэкамендацыі ці паказаў магчымыя шляхі хутчэйшага выйсця з яго. А прычыны, найперш, не ў нацыянальным характары ці нейкіх асаблівасцях генетычнага тыпу беларуса, а ў грамадска-гістарычных і сацыяльна-эканамічных умовах фарміравання і развіцця нацыі. ! вось, замест таго, каб раскрыць хоць бы ў агульных рысах гэтыя прычыны, аўтар на працягу ўсяго артыкула гаворыць аб трагедыі беларускай мовы і нацыянальнай самасвядомасці, пры гэтым робіць празрыстыя намёкі на нацыянальны беларускі характар, на асаблівасці псіхалогіі народа. Гэта, натуральна, не можа не выклікаць у недасведчанага чытача, які асабліва блізка перажывае за лёс свайго народа, пачуцця расчаравання, безвыходнасці, падаўленасці. Гэта, у сваю чаргу, ніяк не можа стымуляваць адраджэнскія настроі ў грамадстве. З некаторымі поглядамі аўтара зусім немагчыма пагадзіцца, але гэтае пытанне вымагае спецыяльнага разгляду.

Не на карысць аўтара артыкула «Брэйк-даўн» па-беларуску?» і яго рэзкая крытычная заўвага ў адрас аўтараў артыкула «Аб'ектыўна пра мяжу» («ЛіМ» ад 9.08.1991 г.) Нагадаю чытачам «ЛіМа», што значная частка зместу артыкула «Аб'ектыўна пра мяжу» прысвечана аналізу нацыянальнага складу Віленшчыны і крытыцы памылковых высноў, зробленых у артыкуле «Мяжа» («ЛіМ» за 5.04.1991) С. Мацюніным (аспірантам С. Польскага). Пытанне, закранутае ў артыкуле «Мяжа», выключна адказнае, датычыць інтарэсаў нацыі ў цэлым і міжнародных адносін. І гэта пры ўсім тым, што артыкул «Мяжа» носіць антыбеларускую накіраванасць. Дапушчаныя ў артыкуле «Мяжа» памылкі С. Польскі не палічыў за патрэбнае прааналізаваць (хоць маральны абавязак кіраўніка аспіранта абавязвае), а замест гэтага з зайздроснай лёгкасцю выкрыў аўтараў артыкула «Аб'ектыўна пра мяжу» не больш не менш як у расісцкіх поглядах на нацыянальнае пытанне. Прыводжу цытату з артыкула «Аб'ектыўна пра мяжу», якая «вымусіла» С. Польскага да такой асуджальнай высновы: «Мы думаем, што Радзіму і нацыянальнасць, як і бацькоў, чалавек не выбірае па сваім гусце. — яны яму дадзены ад нараджэння». Дык вось, на падставе гэтай цытаты С. Польскі прыходзіць да высновы —«Гэта, даруйце, расізм».

Калі прытрымлівацца поглядаў С. Польскага, то былы СССР быў цалкам расісцкай дзяржавай. Але гэта, відаць, не вельмі пераканаўчы прыклад, паколькі СССР быў таталітарнай дзяржавай. Давайце паглядзім, як абстаяць справы ў краінах сталай дэмакратыі. Напрыклад, у Германіі, Ізраілі, Францыі, Англіі. У Германіі, як вядома, права на свабоднае атрыманне грамадзянства (без якіх-небудзь умоў), а таксама на сацыяльнае забеспячэнне з асаблівымі льготамі даецца толькі немцам па паходжанні, г. зн. па сваяцкіх сувязях, а не па «самасвядомасці». Такое ж стаўленне да эмігрантаў і ў Ізраілі. Для эмігрантаў, якія падазраюцца ў іх неаднесенасці па крыві да яўрэяў, робіцца спецыяльнае абследаванне. Асабліва звяртаецца ўвага на эмігрантаў з усходу, падобных на арабаў. Відавочна, што араб, які запісаўся па сваёй «самасвядомасці» яўрэем, у гэтым выпадку ніяк не зможа ім стаць, а значыць, не атрымае ні грамадзянства, ні льготных умоў на пасяленне, ні адпаведнага сацыяльнага забеспячэння. У Францыі і Англіі назіраецца прыкладна такое ж стаўленне да эмігрантаў, якія прыбываюць з былых калоній. Ва ўсякім выпадку эмігранты французскага і англійскага паходжання не адчуваюць тых цяжкасцей пры атрыманні грамадзянства, якія даводзяцца на долю іншых нацыянальнасцей, як бы яны ні запэўнівалі, што па сваёй «самасвядомасці» з'яўляюцца такімі.

Уся справа ў тым, што калі вырашаюцца пытанні, звязаныя з эміграцыяй, як у вышэйназваных краінах, або з вызначэннем этнічнай тэрыторыі для ўстанаўлення палітычных межаў або палітыка-прававога статуса, як, напрыклад, з Віленскім краем, неабходныя дадзеныя пра нацыянальнасці, прычым не па «самасвядомасці», а па сапраўдным этнасе (які выяўляецца, у выпадку з вызначэннем мяжы, спецыяльнымі здымкамі) або па сваяцкіх сувязях, што для такіх выпадкаў гэта натуральна і апраўдана. Мы добра ведаем, што ні Германія, ні Ізраіль, ні Францыя, ні Англія не з'яўляюцца расісцкімі дзяржавамі, пры ўсім тым, што ў іх існуе такое стаўленне да эміграцыі, а вось па мерках С. Польскага яны трапляюць у катэгорыю расісцкіх.

Зусім інačай у гэтых і іншых дэмакратычных краінах разглядаецца нацыянальнае пытанне для тых, хто юрыдычна з'яўляецца іх грамадзянамі. Пытання аб нацыянальнасці для іх не існуе. Напрыклад, у пашпарце, які выдаецца на замежную паездку, пішацца толькі грамадзянства. Так цяпер будзе і ў Рэспубліцы Беларусь. Вядома, гэта правільна. Толькі такім чынам можна паслабіць нацыянальнае пытанне. У роўнай ступені гэта датычыць і Віленшчыны. Пасля таго, калі статус яго канчаткова вызначыцца ў выніку згоды абодвух бакоў (Беларусі і Летувы), пытанне пра нацыянальнасць адпадае само па сабе, хоць гэта не выключае існаванне этнічных груп, як культурных супольнасцей. Трэба адзначыць, што ў свеце ёсць нямала краін, дзе пры адным грамадзянстве існуе ўнутраны падзел на нацыянальнасці па паходжанні і мове, напрыклад, у Бельгіі насельніцтва падзяляецца на фламандцаў і валонаў, хоць усе яны па грамадзянстве лічацца бельгійцамі.

Артыкул С. Польскага лішні раз нагадаў, у якім крытычным стане знаходзіцца беларуская мова і на якім узроўні нацыянальная самасвядомасць. Адказваючы на пытанні, пастаўленыя ў пачатку гэтага артыкула, неабходна прызнаць немагчымасць існавання духоўна паўнакроўнай беларускай нацыі без роднай мовы. Толькі праз родную мову можна зразумець глыбінную сутнасць характару беларускай нацыі, яе найбагаты фальклор, асабліва ярка праяўлены ў народных прымаўках і пагаворках, якія здзіўляюць сваёй сялянскай мудрасцю і нейкай асаблівай філасофскай глыбінёй думкі, часам простай, а часам складанай у сваім разуменні жыцця. Няхай даруюць мне рускія сябры мае магчымыя памылкі, але нічога падобнага я не сустракаў у рускім фальклоры. Упершыню мне пашчасціла адчуць гэта не праз кнігу, а непасрэдна ў жыцці, у жывой сувязі і не дзе-небудзь, а ў ЗША, у асяроддзі беларускай эміграцыі. Не магу стрымацца, каб не сказаць пра аднаго цікавага чалавека, у «беларускім» мінулым настаўніка. Завуць яго Сяргей Мажэйка. Гэты чалавек валодае дзівоснай памяццю, можа, таму ў яго такая моцная настальгія па радзіме. Бясконцая надзея ўбачыць яе хоць бы ў канцы свайго жыцця падтрымлівае ў ім аптымізм. Часам я баюся, што калі ён убачыць сваю разбураную малую Радзіму (сваё мястэчка), то хутка зачахне. Ён захоўвае ў сабе найбагаты склад слоўнага фальклору, славеснай мудрасці. Многія прымаўкі і пагаворкі я пачуў упершыню.

Прызнаюся, калі б мне не давялося адчуць уздзеянне гэтай народнай мудрасці ў свабоднай сувязі, я б не змог прасякнуцца і зразумець яго асаблівую прывабнасць, непадробную жывасць, сілу практычнага жыццёвага розуму і потым прыйсці да цвёрдага намеру прыкласці ўсе сілы для адраджэння роднай мовы.

Мы сабе ясна не ўяўляем, што мы губляем разам з мовай. Якая ж мы нацыя без гэтага багацця? Не кажучы ўжо пра нашу беларускую класіку і творы апошняга часу, якія ўвайшлі ў сусветную літаратуру.

Якія шляхі радыкальных пераўтварэнняў у справе адраджэння культуры і мовы, іншымі словамі, у справе беларусізацыі краіны? Па маім глыбокім перакананні, неабходна аб'явіць і без прамаруджання прыступіць да распрацоўкі праграмы асаблівага (надзвычайнага) перыяду інтэнсіўнай беларусізацыі краіны, напрыклад, на тры або пяць гадоў.

Што павінен уяўляць сабой гэты «асаблівы» перыяд?

У гэты перыяд усе дзяржаўныя сродкі масавай інфармацыі, уключаючы ўсе каналы тэлебачання і радыё, усе дзяржаўныя навучальныя ўстановы (у першую чаргу школы, педагагічныя вучылішчы і ВНУ) за выключэннем, можа, некаторых тэхнічных ВНУ, а таксама ўсе дзяржаўныя ўстановы ўсіх узроўняў, уключаючы ўрадавыя, пераходзяць на беларускую мову. Вельмі важна апэратыўна і эфектыўна правесці (неабход-

(Працяг на стар. 12).



Фота А. КЛЕШЧУКА.

Леанід ДРАНЬКО-МАЙСЮК



## Сем вершаў для А.

●

Ты праплывай заўсёды нада мной
І ў ружу завівай маё дыханне,
Здзіўляй мяне парнаскаю цаной,
Стамляй парнаскім хваляваннем.

І з таямніц, незразумелых мне,
Адкрый мне тую таямніцу,
Што ў гэтым хваляванні і цане
Класічным мармурам іскрыцца.

О, не, не раскрывай яе да дна,
А растлумач мне толькі тое —
Калі мая каханая адна,
Што робіцца з яе душою!

Здагадка забірае мой спакой,
Бо ў той здагадцы навіна благая:
Каханая парой такой
З маёй паэзіі знікае.

Ты ў мармур апранаеш малады
Яе зыход. І я бездапаможны!
У вусны мармуровыя тады
Яе цалуе кожны падарожны...

Скажы, што ўсё не так, што ўсё не так,
Што я здушыў сябе маною.
Накрэслі мне супакаення знак
І заставайся нада мною.

15 сакавіка 1992

●

У стомленасці ёсць тваё імя.
Стамляючыся, ноч тваю сустрэну...
Ты кветкі сніш, якія сню і я —
Лілею каралеўную й вербену.

Мяне ў Парыж ты правяла, у дым,
Якім я дыхаў і якім я плакаў.
Гітара тэлефонная аб тым
Званіла, што няма журбы ніякай.

Цяпер я веру: сапраўды няма...
Сівы скрыпач у Люксембургскім садзе
Іграе пра вясёлае імя
Са стомленасцю любай у паглядзе...

Я заблудзіўся ў радасці чужой,
Я заблукаў на дарагой чужыне,
Упэўнены: з апошняю струной
Парыжскі дым у сэрцы не астыне.

Фантанныя я надламаў слупы,
Каб не ўцякла скрыпічная саната,
Каб монпарнаскі небадом сляпы
Убачыў яснасць неба і сената.

Адпачывай, нядзельны мой сенат,
Курантамі нагадвай, што заўсёды
Каханых прыме Люксембургскі сад
І да скрыпічнай прывядзе лагоды.

У той лагодзе я знайшоў яе —
Хвіліну галубінага спакою.
Мая душа не плача, а пяе,
Бо стомлена не лёсам, а табою.

3 лютага 1992

●

Адкрыюся эндакрынолагу:
Яна ў маё нырнула цела
І ў горле залатоюголкаю
Спынілася і завінела.

Я дыхаю арганнай шчырасцю —
Яе дыханнем каталіцкім,
Ды на аптэчную нішчымніцу
Усё ж я змушаны маліцца.

Дзе лекі тыя, што вясёлкаю
Гаюча ў жылах разальюцца,
Мяне пакінуць з гэтай голкаю
І не дадуць мне задыхнуцца!

Дзе тое простае і вечнае,
Што, узышоўшы бальзамінам,
Жанчыну любую вылечвае,
Як пацалункам, успамінам!—

Што прадчуваннем слова новага
Мяне і ў старасці азорыць...
Не чую я эндакрынолага
А ён нічога й не гаворыць.

Ён апранае футру штучную,
Ідзе з Траецкага прадмесця
Сюды, — дзеззяе ў ноч аптэчную
Кафэ «Сем пятніц» на праспекце.

4 студзеня 1992

●

Мы дажылі да першае зімы,
Да першай радасці марознай, —
Пакуль яшчэ крывёй сагрэты мы
Артэрыяльнай і вянознай.

Да старасці, як да князёўства нам,
Далёкі шлях — дай, божа, ногі;
На золата і срэбра нашым снам
Яшчэ хапае добрай змогі.

Усё ў нас ёсць. Каханы гэты год
Свяціў нам свечкай венецыйнай.

# ЛІЁНСКІ ТЫДЗЕНЬ

Сяргей ЗАКОННІКАЎ

## Такая ў іх служба...

За мяжою хочацца як найболей убачыць, пачуць, запомніць. Нават нейкія пабочныя назіранні, інфармацыя могуць калісьці прыдацца. Такая настроенасць на засваенне новага, невядомага заўсёды дапамагае вытрымліваць імклівы тэмп праграмы і, нават, дапружаць яе. Калі я даведаўся, што наша добраахвотная, няўрымслівая апякунка Катрын можа арганізаваць наведанне ліёнскай паліцыі, то падумаў: «Выдатна. Там трэба пабыць». Знайшоўся і час, бо ў Арлет у гэты дзень зранку былі пільныя клопаты ў Цэнтры сацыяльнай дапамогі.

Едзем да будынка паліцыі. Дарогаю я згадваю, што бачыў, як працуюць французскія служба бяспекі і паліцыя, у 1982 годзе на міжнародным кірмашы. У дні наведвання нашага павільёна мясцовым кіраўніцтвам і высокімі гасцямі з Парыжа тут працавала спецыяльная група службы бяспекі. Цікава было назіраць, як ахоўвалі сваіх падапечных зграбныя, сярэдняга росту прыгажуні, апранутыя ў цёмна-сінія з ледзь бачнаю белаю палоскаю гарнітуры, белыя блузачкі. І ўсё астатняе было белае: на галаве — капялюшык з сіняю стужкаю, на руках — доўгія, да локцяў пальчаткі, на нагах — панчошкі і чаравічкі. Кожная — як на падбор, ды так і не скажаш, бо сапраўды іх выбіраюць і затым сур'ёзна вучаць гэтай няпростай прафесіі.

Ішлі яны звычайна так: адна трошкі наперадзе «аб'екта» ці «аб'ектаў», дзве — па баках, а чацвёртая замыкала групу. Лёгкі крок, асляпляльная ўсмешка і спакойны, але такі пільны позірк. Правая рука — ля расшпіленай белай сумачкі, дзе ляжаць не толькі памада і люстэрка, а ёсць і нешта больш сур'ёзнае. Можна, канешне ж, папракнуць мяне за такое захапленне, бо рызыкаваць жыццём — не жаночая справа, але не магу пакрывіць душою — глядзець на іх было прыемна. Не тое, што на целаахоўнікаў нашых былых і сённяшніх лідэраў, чые адыёзныя, посныя фізіяноміі, манументальныя постаці, завучаныя павароты галавы, чорныя акуляры прымільгаліся ўжо на экранах тэлевізараў.

А тады на ліёнскім міжнародным кірмашы каля павільёна СССР амаль кожны дзень было неспакойна. Згадаем той час: імкліва пашыраліся баявыя дзеянні «абмежаванага кантынгента» савецкіх узброеных сіл у Афганістане, як вада ў чыгуне на вялікім агні бурліла Польшча. Даволі значныя па колькасці эмігранцкія калоніі, групоўкі афганцаў, палякаў, армян, прадстаўнікі яўрэйскага насельніцтва Ліёна выстаўлялі пікеты, праводзілі маніфестацыі, мітынгі пратэсту. На плакатах, транспарантах, якія маніфестанты трымалі ў руках, было напісана: «Выводзьце з Афганістана сваіх салдат-забойцаў!», «Рукі прэч ад Польшчы!» або намаляваны серп і молат, потым знак роўнасці і фашысцкая свастыка. Дарэчы, такія і іншыя надпісы і малюнкі бачылі мы не толькі на плакатах. Яны «ўпрыгожвалі» трактары «Беларусь», магілёўскія скрэперы, якія стаялі на адкрытай пляцоўцы каля павільёна, хапала іх і ў самім горадзе: на пралётах мастоў, на сценах будынкаў, проста на асфальце тратуараў. Паліцыя, як і належыць ахоўнікам парадку і спакою, стаpалася не дапусціць сутычак, фізічнай расправы над прадстаўнікамі замежнай дзяржавы, бо, часам, маніфестанты, распаленыя доўгім скандзіраваннем, спрабавалі прарвацца ў павільён. Аднак мажныя, унушальнага росту і складу паліцэйскія спакойна і разам з тым цвёрда стрымлівалі запал самых ваяўнічых. Калі наспявала надзвычайная сітуацыя, ставіўся нават трайны кардон. Я змог бачыць усё гэта, як кажуць, упрытык, ушчыльную, бо меў на лацкане пінжака вялізны блакітнага колеру жэтон з гербам горада Ліёна і надпісам: «Прэса». Журналістаў нават у непрадказальнай сітуацыі маніфестанты не чапалі, і мая цікаўнасць, жаданне пабыць у самым цэнтры падзей (прытым з фотаапаратам) не мелі непажаданай канцоўкі.

Паліцыя на працягу двух тыдняў дакладна і пільна несла сваю службу, і толькі аднойчы чалавек трыццаць пяць афганцаў, узброеных металічнымі стэкамі, прарвалі заслон і ўліліся раз'юшанаю лаваю ў павільён. Яны крышылі ўсё на сваім шляху: шкляныя вітрыны, паліцы, экспанаты, раскідвалі лістоўкі, а ў канцы свайго набегу запалілі дымавыя шашкі. Доўга пасля ў памяшканні плаваў ружовы атрутны туман. Узмоцненаму падраздзяленню паліцыі, якое прыехала на дапамогу калегам, удалося выцесніць афганцаў, але павільён да канца дня ўжо не мог прымаць наведвальнікаў.

Гэтыя акцыі насцярожвалі, змушалі задумацца, больш уважліва паглядзець на развіццё падзей у свеце. У той час няпроста было прабіцца праз туман фальшу, дэмагогіі і хлусні нашай афіцыйнай прапаганды. Канешне ж, маючы пэўныя звесткі пра венгерскую і чэхаславацкую акцыі, я негатыўна аднёсся да ўводу савецкага войска ў Афганістан, бо, наогул, якому народу можа падабацца, што на яго зямлі прысутнічаюць чужыя салдаты. Аднак хлуслівыя паведамленні, рэпартажы ў газетах, па радыё і тэлебачанні пра тое, што савецкія салдаты не вядуць баявых дзеянняў, а толькі дапамагаюць афганскаму народу (будуюць, праводзяць караваны з харчам і г. д.), закалыхвалі грамадскую думку. Гэтую закалыханасць не ўзбунтоўвала нават чарговая цынкавая труна, дастаўленая «чорным цюльпанам», бо і само пахаванне рабілася цішком, сакрэтна, без лішніх сведкаў. Страшнае гора клалася цяжкім каменем на сэрцы бацькоў і блізкіх забітага салдата або афіцэра, не выклікала ўсенароднага гнеўу і абурэння, магутнага пратэсту супраць неаб'яўленай вайны. Такія мы былі (за выключэннем асобных самаадданых барацьбітоў за правы чалавека, за праўду, якія рашуча выступілі супраць ваеннай авантуры ў Афганістане) і, як кажуць, з песні слова не выкінеш. Дай Бог нам, перажыўшы гэты жахлівы сваім гвалтам над элементарным жыццёвым сэнсам час, а ўрэшце і ўсе семдзесят канцлагерных гадоў, хоць бы сёння дакладна вызначаць: дзе хлусня, а дзе праўда. Бо ў тым ці іншым варыянце гвалт гэты паўтараецца і паўтараецца...

Аднак вось і будынак ліёнскай паліцыі. На ганку нас чакае малады сімпатычны мужчына. «Знаёмцеся, — кажа Катрын. — Гэта Жан Мішэль — журналіст, які займаецца сувяззю прэсы з паліцыяй. У гэтым будынку ён — свой чалавек». Жан Мішэль вядзе нас у вестыбюль, дзе за бар'ерам сядзіць сярэдняга веку, салідны ружовашчокі паліцэйскі — супрацоўнік службы прыёму наведвальнікаў. Ён па-сяброўску вітаецца з Жанам і, выслухаўшы ягоную просьбу прапусціць беларускіх журналістаў, здзіўлена падымае бровы, а затым прамаўляе: «Адну хвілінку!» і набірае нумар па ўнутраным тэлефоне. Дазвол атрыманы, і мы падымаемся на трэці паверх да інспектара дывізіёна Андрэ Ліард. Толькі павіталіся, пазнаёміліся, як у кабінет зайшоў камісар паліцыі. Ён агледзеў нас, насцярожана зірнуў на тэлекамеру Юры Лакаўца і павярнуўся да Андрэ: «Што гэта за людзі?» Пасля тлумачэння камісар дружалюбна пацiснуў кожнаму руку: «Рады вітаць. Жадаю з карысцю правесці час у нашай установе. Шкада, што магу ўдзяліць вам толькі хвілін пяць. Шмат клопатаў. Ды яшчэ нядаўна адбылося забойства». На запытанне Юры: «Што мне можна зняць?» камісар адказаў: «Калі ласка, здымайце будынак, унутраны інтэр'ер, але не работнікаў. Гэта нельга. Нашым людзям рэклама не патрэбна, ім лепей быць непрыкметнымі. Такая служба». Перамовіўшыся з Андрэ па пільных справах, камісар развітаўся і выйшаў. А інспектар пачаў расказваць:

— У нацыянальнай паліцыі Францыі звыш 100 тысяч супрацоўнікаў, сярод іх 15 тысяч інспектараў, 5 тысяч камісараў. У Ліёне ў паліцыі — 2700 чалавек. Нацыянальная паліцыя працуе ў гарадах, дзе жыве больш за 10 тысяч чалавек, а мясцовая жандармерыя абслугоўвае малыя гарады, пасёлкі і вёскі. Але мы дзейнічаем у кантакце, абменьваемся пастаянна інфармацыяй. Калі забойства адбылося ў нашым горадзе і злачынца змог яго пакінуць, то падключаем мясцовую жандармерыю.

Мы займаемся толькі сур'ёзнымі парушэннямі закона. Нейкія сацыяльныя праблемы, маніфестацыі, мітынгі і г. д. нас не тычацца.

У 1981 годзе з прыходам да ўлады левых у паліцыі адбылася дэцэнтралізацыя. Мы і сёння лічым, што паліцыя павінна быць як мага бліжэй да народа. Таму і адкрыты ўчасткі ва ўсіх раёнах, каб аператыўна рэагаваць на кожнае здарэнне.

Ведаючы праблемы нашай міліцыі, нас цікавіць многае: матэрыяльная база паліцыі, статус самога паліцэйскага, адносіны да яго людзей, сацыяльная абароненасць. Андрэ ўважліва слухае пытанні, робіць паметкі ў блакноціку, а затым грунтоўна і падрабязна тлумачыць:

— Наша прафесія, нягледзячы на тое, што яна небяспечная, вельмі прэстыжная і папулярная ў Францыі. Надзвычай добрыя ў нас адносіны з насельніцтвам. Працэнтаў восемдзесят французаў давяраюць паліцыі і паважаюць яе.

У Францыі шмат беспрацоўных, а мы жывём стабільна, маем неблагі жыццёвы ўзровень. Сярэдняя месячная зарплата ў краіне — 8 тысяч франкаў. Нашы работнікі згодна катэгорый С, В, А атрымліваюць: агент да 10, інспектар да 13, камісар да 20 тысяч франкаў. Але гэта максімум, звычайна сума крыху меншая.

Калі паліцэйскі захварэў або пры выкананні службовых абавязкаў атрымаў траўму, стаў інвалідам, то яму выплачваецца салідная пенсія. І ў дадатак яшчэ дзяржава кампенсуе многія выдаткі, звязаныя з хваробаю ці інваліднасцю. А, не дай Бог, паліцэйскі загінуў, адразу сям'я атрымлівае вельмі значную суму грошай і затым пенсію, пастаянную дапамогу на выхаванне дзяцей. Ёсць таксама фонд дапамогі, арганізаваны самімі работнікамі паліцыі, куды мы рэгулярна робім узносы. Механізм сацыяльнай абароненасці адпрацаваны дасканала. Дарэчы, напад на па-



Вуліца ў старым Ліёне

Працяг. Пачатак у нумарах 30—31.

# Паміж Пятром ды Аляксеем

## «Хрыстос і Антыхрыст» паводле Д. Мераржкоўскага ў Рускім тэатры Беларусі

У ВЕСЬ вялікі джэнтльменскі набор выяўленчых сродкаў, скіраваных на тое, каб гледачоў «рублёвай зоны» давесці да шоку, катарсісу, подзвігу і татальнага пакаяння, абрынуў на залу Барыс Луцэнка. Аграмадны іканастас; павіслыя цыбуліны бажаніц (у кульмінацыйных сцэнах яны гайдаюцца ўгору-долу, выяўляючы душэўнае ўзбуранне персанажаў); свечкі ў руках герояў; чырвоная фарба — звыклы заменнік крыві; істэрычны стан пратаганіста; аголенасць (дакладней, аголенасць напалову — так больш спакусліва) цудоўнага жаночага цела. Увесь пазнавальны арсенал «татальнага» тэатра 70-х гадоў, які колісь дзейнічаў беспамылкова, а цяпер стамляе: замест чэхаўскае стрэльбы на сцяну вешаюць буйнакаліберны хуткастрэльны кулямёт, які бабахае ўвесь спектакль, а глядач тым часам самотна прыгадвае афарызм Казьмы Пруткова: «Як маеш фантан, дык закаркуй яго. Дай адпачыць і фантану». Усё разам называецца: «Хрыстос і Антыхрыст» (Царэвіч Аляксей)». Трэцяя частка трылогіі Дзмітрыя Меражкоўскага інсцэніравана Б. Луцэнкам з дапамогай У. Рудава, аформлена сцэнографам З. Марголіным і пастаўлена ў рускіх драматычных тэатрах: спачатку Летувы, потым — у якасці «rimeike» — Беларусі.

Луцэнка ўступае на жасцерны шлях інсцэнізацыі прозы, хоць у Меражкоўскага была арыгінальная п'еса па матывах III тома «Хрыста і Антыхрыста»: «Царэвіч Аляксей». Нават пасля таго, як Меражкоўскі эміграваў з савецкай Расіі, яе іграў Петраградскі Вялікі драматычны тэатр (у ролі Аляксея выступаў знакаміты Манахаў). Усё, што адбывалася на сцэне, рыфмавалася з тым, што адбывалася навокала: эпоха пералому, скрутны час, усё сарвана з месцаў, наперадзе цьмяная высокая мэта, якой ахвяруюцца астранамічныя лічбы чалавечых асоб; на баку пераможцаў — самая свежая канцэпцыя таго, чым мусіць быць гістарычны працэс (ці правільная — гэта ўжо іншае пытанне), на баку пераможаных — штосьці хісткае, няўцямнае: ці то сумленне, ці то агіда нармальнага чалавека да жорсткіх зменаў-пераменаў, ці то інтуітыўнае эстэтычнае пачуццё... Нешта нейкае, што так проста адпрэчыць выспяткам — ці гасудäравага, ці камісаравага — бота.

Меражкоўскі — фігура ў гісторыі рускай славеснасці і грамадскай думкі трагічная. Не толькі біяграфічна. Тут ёсць і трагедыя мастака. Усё жыццё ён назіраў у сусветнай гісторыі змаганне двух пачаткаў: Хрыстова і Антыхрыстава, сутыкненне дзвюх безданяў. Яснейшаю ды дакладнейшаю рабілася думка і філосафа, але талент мастака мізарнеў... Першы раман трылогіі — «Юліян Адступнік» (1894—95) напісаны бліскуча, з выбітным, пластычным майстэрствам, спакваля страчаным рускай прозай; а потым пісьменнік робіцца ўсё больш шматслоўным, ідэалагічны бок справы замінае ўменню маляваць характары, (нібыта) натуралістычная гушчыня пісьма ў выяўленні дэталяў робіцца самамэтаю. Хвосткі, хоць і павярхоўны крытык Карней Чукоўскі ў 1912 годзе сваю рэцэнзію на прозу Меражкоўскага назваў «Міма чалавека»; рэчавыя рэаліі, на думку рэцэнзіста, выпхнулі з раманаў Меражкоўскага жывых людзей.

Драматург Меражкоўскі быў слабейшы за празаіка. Тым не менш і «Царэвіч Аляксей», і «Павел Першы» (першая ў былым СССР пастаноўка Меражкоўскага пасля 65-гадовага перапынку ў ЦТСА; рэжысёр Леанід Хейфец, у ролі Паўла Алег Барысаў) некалі былі досыць рэпертуарнымі п'есамі. Хваравітая, сугучная эпосе думка шыбала, лунала, пераважвала слабіны драматургіі.

...Адмаўленне ад арыгінальнай п'есы дзеля інсцэнізацыі прозы можа быць вытлумачана трыма прычынамі:

а) незадаволенасцю тым, што шырокая панарама рамана ў «Царэвічы Аляксеі» моцна звузілася, імкненнем пашырыць рамкі драмы;

б) асаблівымі дачыненнямі пэўнага тэатра з прозай (як, да прыкладу, у Таганкі);

в) простым рэжысёрскім «мне гэтак зручней».

Я, вядома, перапрашаю спадароў тэатральных дабрадзеяў, ды здаецца мне: у даным выпадку пераважвае трэцяя матывоўка.

Меражкоўскі вяртаецца на сцэну не таму, што мода цяпер гэткая (хоць мода на эмігранцкую — колісь недаступную — літаратуру, вядома, ёсць, правільней, была, ды рэч у іншым), а таму, што сам час вымагае яго. «Праклятыя пытанні» рускага «срэбнага веку» сёння набылі актуальнасць. Рускія сімвалісты жылі напярэдадні Апакаліпсіса, мы — таксама. (Баюся, ужо не напярэдадні).

Вытлумачыць усё, што адбываецца праз сацыялагічныя, эканамічныя ды іншыя падобныя паняцці, мы не ўмеем. Не спрацоўваюць гэтыя катэгорыі. Філасофію жыцця мы страцілі (альбо зусім не знайшлі). Яе замяніла філасофія тэатра. Дзякаваць Богу яшчэ, што мы намагаемся тлумачыць свет, зыходзячы з Меражкоўскага, а не з Шатрова...

Адвечнае змаганне Хрыста і Антыхрыста, паводле Меражкоўскага, абвастраецца ў ракавыя мінуты гісторыі. Менавіта Расіі (не мог жа Дзмітрый Сяргеевіч ведаць цяперашнія тэрміны «былы Саюз», «СНД» і «рублёвая зона») наканавана было стаць апошнім полем бітвы гэтых пачаткаў, а ў будучым — і месцам іхняга замірэння-сінтэзу. Трагізм быцця ў тым, што два пачаткі існуюць не адасоблена, а ў душы амаль кожнага чалавека, — яна, душа, і ёсць поле для бітвы. «Плюс» і «мінус» не проста ўзаемазвязаны: яны люстэркавыя. «Неба ўгары — неба долу». Неабходныя — абодва. Хрыстос — спакой, гармонія; Антыхрыст — рух. (Таму любая «перабудова» — Антыхрыстава дзеянне). Парадаксальнасць драмы ў тым, што «рэвалюцыянерам» выступае амаль 50-гадовы Пётр, а «кансерватарам» — 20-гадовы Аляксей. (З адваротнаю дакладнасцю рэалізуецца гістарычны афарызм: «Хто ў 20 гадоў не быў рэвалюцыянерам, у таго няма сэрца. Але хто да 50-ці не зрабіўся кансерватарам, у таго няма галавы»).

Я так падрабязна кажу пра гэта таму, што рэжысёр прыспешвае свой спектакль, мінуючы гэтыя праблемы.

Толькі з наіўнасці ці чытаючы надта ўжо павярхоўна, можна палічыць раман «Пётр і Аляксей» за гістарычнае сачыненне пра падзеі першай чвэрткі XVIII стагоддзя. Зманлівая падрабязнасць дэталяў можа прымусіць паверыць у гэта, але не надоўга. Луцэнка ўвасабляе менавіта гістарычны баявік пра вялікага рэфарматара (хоць і несалодкага нораву, ды ў каго ж з вялікіх ён салодкі?) Пятра і пра гаротнага, ублытанага ў дурноцце — амаль ідыёта —Аляксея. Не хавае таго, што эпоха была жорсткай, крывавай, але і не вельмі задумваецца над маральным коштам гэтае жорсткасці. Абвестка пра спектакль пазначана імем Меражкоўскага, але магла б — імем Аляксея Мікалаевіча Талстога. Светапогляд «срэбнага веку», у якім пераламляўся век XVIII, прыняты, заменены эфектнымі, ды вельмі ўжо знаёмымі рэжысёрскімі прыёмамі.

Між тым нейкае ўнутранае адчуванне, уласцівае Луцэнку, не зусім пакідае яго і ў гэтым спектаклі. Часам ён схоплівае сутнасць той карціны свету, якую малюе Меражкоўскі (ва ўсёй трылогіі, з кнігі ў кнігу), узаемапрасякнутасць — на ўзроўні рэчавым, матэрыяльным — Хрыстова і Антыхрыставага пачаткаў. (Тут, праўда, хутчэй прыгадваецца другая частка, «Леанарда да Вінчы», дый дзякуй за тое). Прынцэса Софія-Шарлота (В. Перавожкіна) і фрэйліна Арнгейм (А. Цяткова), узлезшы на бочкі, у паставах карыятыдаў спяваюць нейкую працяглую і пяшчотную

# ЛІЁНСКІ ТЫДЗЕНЬ

(Пачатак на стар. 8—9).

нашымі паслугамі, — 12 працэнтаў, а рэшта, і, як бачыце, немалая, — гэта ўклады розных арганізацый, фондаў, мецэнатаў. У муніцыпалітэта ёсць і свае арганізацыі па сацыяльнай дапамозе, яны — на бюджэце. А мне даводзіцца траціць тры чвэрці свайго часу на пошук сродкаў. Арганізацыі, мецэнаты, якія дапамагаюць нам, часта мяняюцца, а гэта — новыя дамовы, кантакты, клопаты.

У Цэнтры працуе пастаянна 15 чалавек, столькі ж занята кожны дзень па дамоўленасці. Абслугоўваем да 800 чалавек. Не здзіўляйцеся, што лічба вялікая. Гэтыя людзі не прыходзяць сюды адначасова.

Чым жа мы займаемся? Стараемся перакласці частку жыццёвых клопатаў людзей на свае плечы. Для самых маленькіх дзяцей наладжана нешта падобнае на вашы яслі, садок. А старэйшыя прыходзяць сюды, каб рыхтаваць урокі пад наглядам і з дапамогаю вопытных выкладчыкаў, займацца спортам, фізкультураю, адпачываць. Ёсць у нас служба, якая працуе з цяжкімі падлеткамі. Вядзём барацьбу супраць наркаманіі, выпускаем спецыяльную газету.

Дарослыя людзі наведваюць розныя секцыі: плаванне, ёга і г. д. Ім даводзіцца плаціць за сезон (з верасня па чэрвень) ад 90 да 800 франкаў.

Ёсць і канікулярныя формы работы. Скажам, многія дзеці летам хочуць адпачываць не дома, а ў нейкім іншым месцы. Цэнтр аплачвае атэлі, кемпінгі. Разам з дзецьмі могуць быць і бацькі (ім таксама робіцца скідка).

Калі бацькам трэба некуды адлучыцца, то яны пакідаюць у нас дзяцей на два-чатыры дні.

Жыхары горада прыходзяць у Цэнтр і проста па нейкую параду. Мы выслухваем, а потым раім ім куды лепей звярнуцца, каб атрымаць дапамогу. Займаемся і ўладкаваннем на працу, на стажыроўку.

Вядзём і тэарэтычную, прапагандысцкую работу. У мінулым годзе, напрыклад, адбыўся калёквіум на тэму «Правы дзіцяці», у якім удзельнічалі лепшыя спецыялісты з усёй Францыі.

Наладжваем святы, балі. Стварылі савет бацькоў, які займаецца рэкламаю нашых мерапрыемстваў, бо хачу сказаць шчыра — французы цяжкаватыя на пад'ём, іх трэба яшчэ разварушыць. А цяпер давайце пройдзем па будынку і паглядзім: хто і чым займаецца?

Справа ад уваходу — памяшканні для маленькіх. Тут вельмі зручная мэбля, вясёлыя стракатыя шпалеры. Шмат цацак. Усюды стэрыльная чысціня і акуратнасць. Дзеці якраз абедаюць. Дзве выхавацелькі вучаць іх, як правільна трымаць лыжку, як карыстацца сурвэткамі.

Затым мы трапляем у старэйшую групу. Дзеці заняты маляваннем, ды яшчэ якім! На падлозе стаяць тазікі з разведзенаю фарбаю, паўсюль разасланы доўгія лісты паперы. Малыя залазяць у тазікі і потым малююць нагамі наколькі хапае фантазіі.

У левай палавіне будынка працуюць курсы крою і шыцця. Пытаю ў кіраўніцы: «Француженкі звычайна носяць гатовае адзенне альбо любяць шыць самі?» Яна, перасільваючы стракат трох швейных машынак, звяртаецца да жанчын: «Ну, што мы адкажам на гэтае пытанне?» Тыя ўсміхаюцца, выключаюць машынкі, але ў гаворку не ўступаюць. Кіраўніца кажа:

— Саромеюцца. А я адкажу так. У каго ёсць шмат грошай, той звычайна ідзе ў магазін, атэлье. А хто жыве больш сціпла, каб сэканоміць грошы, прыходзіць да нас, вучыцца шыць. Наведвае курсы да 150 жанчын. Плата невялікая — за тры гадзіны толькі 12 франкаў. За вучобу на працягу цэлага года — 400 франкаў.

Я кажу, што нашы жанчыны, і прыводжу ў прыклад сваю жонку, умеюць і любяць шыць, ды немагчыма купіць добрую, прыгожую тканіну, ніткі, гузікі, розную фурнітуру.

Жанчыны смяюцца: «Набыць гэта ўсё ў Францыі — не праблема. Галоўнае — навучыцца шыць».

А кіраўніца дадае: «Не трэба забывацца і на тое, што ёсць адзінокія людзі. Ім хочацца прыходзіць сюды, бо тут можна пагаварыць, параіцца, абмяняцца сваім умельствам, нейкім жыццёвым вопытам».

Арлет запрашае агледзець усё іхняе ўладанне. Сам будынак Цэнтра не такі ўжо вялікі — агульная плошча 500 квадратных метраў, а зямельны ўчастак ля яго — амаль гектар. Арлет паказвае пляцоўкі для гульняў, заняткаў спортам, сад. З гордасцю ў голасе гаворыць:

— У нас самы вялікі ўчастак у Венісьё. Але за зямлю мы не плацім, за будынак і яго эксплуатацыю — таксама. Гэта клопат муніцыпалітэта. А сродкі патрэбны вялікія. Напрыклад, толькі карыстанне вадою, газам, электраэнергіяй каштуе ў год 10 мільёнаў франкаў.

Да мая наступнага года думаем стварыць ферму, дзе будуць коні, каровы, авечкі, козы, свінні, трусы. Малыя любяць даглядаць жывёлу. Гэта ўплывае і на іхні характар, становяцца дабрэйшымі, больш спагадлівымі. У нас ужо была невялічкая ферма, дык тады тысячы дзяцей прыходзілі. Некаторыя хацелі застававацца і жыць тут нават некалькі дзён.

За сталом, падчас абеду, гаворка працягваецца. Супрацоўнікі Цэнтра падкрэсліваюць, што іхняя работа спецыфічная, бо даводзіцца абслугоўваць самых бедных людзей. У багатых гэтых праблем няма. А ўсяго такіх цэнтраў у Венісьё — чатыры, у ліёнскім рэгіёне — шэсцьдзесят. Іхняя дапамога людзям вельмі адчувальная.

Нас цікавіць, а як жа жывуць самі супрацоўнікі Цэнтра? Арлет тлумачыць:

— Я — служачая муніцыпалітэта. Месячная зарплата — 10 тысяч франкаў. Адпачынак у мяне 35 дзён. Але ці я на рабоце, ці ў адпачынку — аплата адна і тая ж. А ўвогуле за год атрымліваю 13 месячных акладаў. Зарплата супрацоўнікаў: ад 6 да 8 тысяч.

Як дырэктар, я рэгулярна раблю справаздачу перад мэрыяй і муніцыпалітэтам пра тое, куды ідуць выдзеленыя імі сродкі. А ў педагагічнай, выхаваўчай, арганізацыйнай працы — мы свабодныя, робім усё, што нам трэба, эксперыментуем.

Раней наша дзейнасць была скута камандамі зверху, а цяпер стараемся вывучаць больш уважліва патрэбы людзей, рашаць самыя розныя праблемы самастойна, развіваць ініцыятыву знізу...

Надзвычай шчыра, сардэчна прымалі мяне і ў «Асацыяцыі дапамогі народу», якая працуе ў цесным кантакце з Рухам за мір. Прэзідэнт асацыяцыі Разет Жанін сустракае на ганку, прывітальна ўсміхаецца. Я пазнаёміўся з ёю ў музеі Руху супраціўлення Ронскага дэпартамента, дзе дырэктарам — яе муж Шарль, былы вязень Дахау. І сям'і Разет у гады другой сусветнай вайны выпала пакутніцкая доля. Фашысты схапілі бацьку і брата і кінулі ў бухенвальдскі лагер смерці, маці забралі ў ліёнскую турму. Туды ж трынаццацігадоваю дзяўчынкаю трапіла і сама Разет. Гэтая энергічная, таварыская, абаяльная жанчына, якая прайшла не адзін круг фашысцкага пекла, ведае цану жыцця, радуецца кожнаму новаму дню. Яна бачыць, што ў многіх людзей і сёння жыццё нялёгкае. А таму хоча дапамагчы слабейшым бяднейшым. Яна дзеліцца сваім клопатам:

— Кожная сям'я, якая мае неблагі жыццёвы ўзровень, час ад часу абнаўляе сваю мэблю, бытавую тэхніку, посуд, словам, усё тое, што неабходна чалавеку. Вырастаюць дзеці — застаецца вопратка, абутак, якія яшчэ могуць паслужыць. А ў некаторых бедных сем'ях усяго гэтага не хапае. Вось мы і рашылі арганізаваць збор такіх рэчаў, каб перадаць тым, каму яны патрэбны. Асацыяцыя мае неблагое памяшканне. Вызначаны дні месяца, калі можна здаваць і атрымліваць рэчы. Здаецца, усё проста. Але работы хапае — трэба агледзець усё, вызначыць прыдатнасць, вопратку і абутак рассартаваць па відах і памерах Хоць людзі і стараюцца прыносіць прыстойныя рэчы, ды ўсё ж нешта здаецца ў хімчыстку, мыецца, прасуецца.

Ды вы і самі можаце гэта ўбачыць. Сёння якраз дзень прыёму. Пайшлі ў памяшканне.

У калідоры, яшчэ не асвоіўшыся пасля сонечнага святла, натыкаюся на вялізнае скуранае крэсла. На ім ляжыць паперка з нейкімі словамі. Перакладчыца Святлана чытае: «Шаноўныя! Калі ласка, забярыце хто-небудзь гэтае крэсла, бо яно замінае нам працаваць». Разет смяецца: «Вось вам і першая рэч. Раскошнае новае крэсла, а стаіць ужо другі ме-

## З ПАЭТЫЧНАЙ ПОШТЫ

**Мікола ТРАФІМЧУК**

# Ляцім!

У пекла нас павадыры вялі.
Назвалі, фарысеі, пекла раем.
Авечкі, мы ішлі і давяралі
чыноўнікам хлусні, а не скрыжалям.
І вось... Прыйшлі!

Нішчым'е вёснаў, летаў, доўгіх зім.
Кукулле спее, буйна каласіцца.
Жыццё, як сон.
І нам такое сніцца!
У прорву на чырвонай калясніцы
мы ляцім.

Адразу не памрэм. Далёка дно.
(А, зрэшты, бездань дна зусім не мае).
Ляцім старчма!
Ляцім і паміраем!
Таму што пекла называлі раем.
І паратунку, Божа,
не відно.

# Раб

У папярэдніх жыццях
быў я вольны.
І толькі ў гэтым — раб.
Дрымотны раб.
Прыкаяны да прагі неспатольнай:
памерці каб.

Няўжо ў жыцці наступным
мне з'явіцца
наканавана зноў з кляймом раба!
Я — раб.
Але душа ў мяне, як быццам,
не, не раба.

Дык вось яно адкуль,
непрымірэнне!
І да свабоды прага вось адкуль!
Я вольны быў
у жыццях папярэдніх.
І будучыні не хачу.
Пакуль.

# Беларускі лес

Асіны ды бярозы,
елкі зрэдзь,
дубы-асілкі,
баравыя хвоі...
У большасці сваёй
вам зелянець!
Ды вашы раны
час так доўга гоіць.

То тут, то там
надсечкі ці надрэз,
карчыстыя і пністыя паляны...
О, шматпакутны беларускі лес,
ты, як народ, надломна-незламаны!

Прайсціся цераз лес —
як перажыць
усё-усё, што прашчурам пражыта.
І толькі падсілкуе на мяжы
цябе хіба што хлебным духам жыта.

За небакрай ніколі не ўцячы
асінам гэтым, хвоям і бярозам...
Аб чым шуміць! Ды больш пра што
маўчыць
наш Дух зямны і наш Сусветны Розум!

г. Іванава.

**Святлана КАРОБКІНА**

●

Гуляе позняя мяцеліца
І вецер вые за вакном.
А у душы надзея спеліцца,
Што мы да лета дажывём...
Шчэ паспытаем ягад лекавых,
У лесе зёлак набяром,
І кпінаў мо пазбегнем здзеклівых—
Што не як іншыя жывём.
Не як яны, што век прывыклі
Камандаваць і цараваць
І спрабаваць усё на іклы —
Жывых у сцены муроваць.

●

Пацеркі, ноч, ты мае не парвала —
Хай растрывожыла ўсё у душы:
Спаць не давала, нервы знішчала,
У сэрца кідала надзей недзяшы...
Ранне настала, зноў я жывая
З тымі ж пачуццямі, з тою ж душой.
Дзень хай да працы мяне далучае —
Не да размовы аб шчасці — пустой...
Не да надзеі, што век безнадзейна,
У сэрцы сядзіць... Кроў няпраўда пячэ!
Не да таго, што наскрозь безыдэйна,
Што чорнаю нафтай у рэчку цячэ...

●

Гамоніць кожны аб сваім,
І я вось — гаманю.
Глытаю палыновы дым,
Ды Богу не маню!
Жыву, здаецца, і жыву —
Няхай не так, як вы...
Хай не шаную галаву,
Але у час Савы
Спрыяе нешта мне ўсё ж
І ведае зямля—
Я не прадам душу за грош,
Каб знішчыць салаўя.

г. Мінск.

**Леў МАРОЗ**

●

Усе з табой запанібрата,
Маўляў, не шар ты, толькі шарык...
А на табе — ўвесь век дваццаты,
Вякоў мінулых боль і мары,
Манблан дабра, Памір нягоды
І лютай злосці Кардыльеры,
І ў эру шчасця і свабоды
Чатыры акіяны веры.

●

Ні чыстых захадаў, ні ўсходаў —
Усё прыцьміла тэхнасфера...
Мо пачапася для народаў
Святла пазбаўленая эра!

І не падорыць луг і поле
Нікому яркія букеты,
І ў непрывабны шэры колер
Пярэйдуць колеры планеты!

І ў небе зоркі не засвецяць,
Скрозь морак месяц не праб'ецца!..
Скажы ж ты мне, скажы, мой свеце,
Што гэта толькі мне здаецца.

г. Мінск.

**Мікола МІНЧАНКА**

# Хлебароб

Стагі пад месяцам, нібы званы:
У іх прыхаваны звон палетка,
Ты працаваў, як хлебароб, не сведка.
Стагі пад месяцам, нібы званы.

Ты цэлы век заняты быў адным,
Каб налілося чыстым сокам поле,
Каб голад да дзяцей не поўз ніколі.
Ты цэлы век заняты быў адным.

Як сонца, чысты бохан на стале,
Ён шчасцем новы дзень асвеціць
І госця ў доме кожны раз прывеціць,
Як сонца, чысты бохан на стале.

# Час запаветны

Як сонца прысніцца,
То дзень будзе светлы.
Каму пакланіцца
У свой час запаветны!

Ці богу, што ў хаце,
Як трэба, на куце!
Ці коніку ў пуце!
А можа, ўсё ж маці!

Яна нарадзіла.
Яна гадавала.
Як гора чадзіла,
Тады гаравала.

Калі ж весялосцю
Запоўніцца сэрца,
Дзяцей маладосцю
Мой смех адгукнецца.

# Дадому

Усе сцяжыначкі запомню —
Яны дадому прывядуць.
Мне дзень шчаслівы аддадуць—
І ў ноч цямнейшую — мне поўню.

Як срэбра, кожная расінка
На ўсіх лістках заззіхаціць.
І гора ўсё перабаліць,
І ўсмешкай — кожная былінка.

А потым раніца пунсова,
Нібы надзея на жыццё.
І новы дзень, як адкрыццё,
Паўторыць радасці нанова.

І боль аціхне назаўсёды.
І адляціць навек журба.
А недзе юная вярба
Смяяцца будзе з непагоды.

І я таксама усміхнуся.
І кожнай сцежачцы скажу:
Табой, як праўдай, даражу, —
Бо толькі так дамоў вярнуся.

г. Клімавічы.

# КРЫТЫЧНАЯ СІТУАЦЫЯ— РАДЫКАЛЬНЫЯ МЕРЫ

(Пачатак на стар. 5).

ныя для арганізаванага пераходу) работы ў падрыхтоўчы перыяд, які павінен быць кароткім — адзін-два гады. У падрыхтоўчы перыяд неабходна правесці ў першую чаргу наступныя мерапрыемствы: стварыць сетку спецыяльных бюро па перакладу з рускай на беларускую мову і шэраг курсаў па вывучэнні беларускай мовы; тыражаваць у дастатковых аб'ёмах беларускамоўныя падручнікі, спыніўшы выданні навучальнай літаратуры на рускай мове; ажыццявіць пераклад (дубліраванне) замежных кіна- і тэлефільмаў на беларускую мову, стварыць серыю вучэбных, дакументальных і мастацкіх фільмаў на беларускай мове з адлюстраваннем у іх важнейшых падзей з беларускай гісторыі, а таксама з жыцця выдатных дзеячаў беларускай зямлі; падрыхтаваць у тэатрах спектаклі і канцэртныя праграмы на беларускай мове; падрыхтаваць скульптурныя і архітэктурныя праекты для замены помнікаў, якія не маюць адносін да беларускай гісторыі і культуры і не ўяўляюць мастацкай каштоўнасці (такіх нямала); правесці неабходныя арганізацыйныя мерапрыемствы па выданні і перавыданні твораў беларускіх пісьменнікаў, у тым ліку сучасных, якія жывуць на Беларусі і за яе межамі; правесці перамовы з замежнымі рэдакцыямі беларускіх перыядычных выданняў (газет, часопісаў) для іх выдання на Беларусі і для сумеснага выпуску газет і часопісаў, а таксама шэраг іншых падрыхтоўчых мерапрыемстваў.

У «асаблівы» перыяд неабходна, каб беларуская творчая інтэлігенцыя і студэнцтва прыклалі максімум намаганняў, выкарыстоўваючы ўсе сродкі масавай інфармацыі для ўзняцця энтузіязму, дзелавой актыўнасці, патрыятызму і бескарыслівасці ў справе беларусізацыі насельніцтва. Трэба прыцягваць на дапамогу таксама пенсіянераў, многія з якіх помняць родную мову.

Для забеспячэння паспяховага правядзення мерапрыемстваў «асаблівага» перыяду нас не павінны бянтэжыць дзеянні дыскрымінацыйнага характару ў адносінах да руска- і польскамоўных сродкаў масавай інфармацыі. У гэты перыяд дзяржаўная паліграфічная база, папера, фарбы, фота і іншыя матэрыялы павінны быць прадастаўлены беларускамоўным выданням. Неабходна ўвесці павышаныя падаткі на ўсе руска- і польскамоўныя выданні і зняць падаткі з беларускамоўных выданняў (зразумела, калі яны не займаюцца антыбеларускай прапагандай на беларускай мове).

У дзяржаўных навучальных установах, арганізацыях трэба ўсяляк заахвочваць спецыялістаў, якія актыўна садзейнічаюць укараненню беларускай мовы. Заахвочванні могуць быць праз матэрыяльнае і маральнае стымуляванне.

Пытанне з беларусізацыяй царквы ўяўляецца больш складаным, аднак і тут найбольш ільготныя ўмовы павінны быць прадастаўлены беларускамоўным цэрквам і касцёлам. Правамерным, гістарычна лагічным, духоўна апраўданым будзе, калі побач з беларускай мовай царква будзе выкарыстоўваць стараславянскую, а касцёл лацінскую мову. Польская і руская мовы павінны пакінуць храмы Беларусі.

Не выключана, што будуць мець месца выпадкі, калі ўказы, палажэнні «асаблівага» перыяду будуць парушацца, не выконвацца. Верагодней за ўсё гэтага трэба чакаць у выдавецкай дзейнасці. Неабходна распрацаваць юрыдычна абгрунтаваныя меры ўздзеяння на парушальнікаў з дапамогай сістэмы розных штрафаў. Прычым праводзіць гэтыя меры рашуча і жорстка, стварыўшы папярэдне грамадскія інспекцыі. Народ павінен зразумець гэтыя меры правільна, бо без такіх рашучых мер справа з адраджэннем беларускай мовы і культуры будзе знаходзіцца ў стане тлеючай галавешкі, якая не гарыць і не тухне.

Відавочна, што гэтыя не папулярныя для рускамоўнага насельніцтва меры выклічуць (сярод іх пэўнай часткі) незадавальненне. З'явяцца апаненты, што будуць крытыкаваць ідэю правядзення «асаблівага» перыяду. Прадбачу, што асноўным іх доказам будзе матэрыяльны бок гэтага мерапрыемства, што ў цяперашні час галоўным для краіны з'яўляецца рашэнне эканамічных праблем. У гэтай сувязі вельмі важна правесці эканамічныя разлікі і зрабіць іх здабыткам грамадскасці. Само па сабе гэта культурнае мерапрыемства мала закранае эканамічныя праблемы, акрамя хіба што сваім інфармацыйным бокам, бо ў першы час трэба чакаць узнікнення інфармацыйнага голаду для рускамоўнага насельніцтва ў выніку скарачэння рускамоўных выданняў, выкліканага жорсткай падаткавай сістэмай. Для дзелавых людзей можна стварыць рускамоўную спецыяльную тэлевізійную праграму.

Калі мы будзем чакаць, пакуль стане стабільнай эканоміка, разгубляем астаткі яшчэ жывой у нас беларускасці. Нас ніхто не ў праве асудзіць, абвінаваціць у нацыяналізме. Нас зразумеюць, калі мы загадзя паставім у вядомасць, растлумачым нашай і сусветнай грамадскасці неабходнасць гэтых мер, выкліканых трагічным становішчам беларускай культуры і мовы, да якога прывёў дзесяцігоддзямі ажыццяўляемы над беларускай нацыяй фізічны і духоўны генацыд. Па сутнасці, гаворка ідзе аб выратаванні беларускай нацыі.

У час дзеяння палажэнняў «асаблівага» перыяду мы не павінны ўяўляць сабой закрытае грамадства. Наадварот, неабходна садзейнічаць наведванню краіны замежнымі гасцямі. Падрыхтаваць на замежных мовах літаратуру, якая тлумачыла б сутнасць нашай палітыкі. Па сутнасці, «асаблівы» перыяд з'яўляецца культурнай рэвалюцыяй, накіраванай сваім вастрыём супраць руска- і польскамоўнай агрэсіі, дзеля адраджэння (выратавання) роднай мовы. Галоўная мэта гэтай рэвалюцыі — нармалізацыя культурнага жыцця нацыі, стварэнне ўмоў для дастойнага духоўнага яе развіцця. Як у «асаблівы» перыяд, так і ў наступны час не павінна быць ніякага ўціску этнічных супольнасцей у выкарыстанні імі ўнутры сябе нацыянальнай мовы, у стварэнні сваіх прыватных школ і розных спецыяльных навучальных устаноў, а таксама ў захаванні імі сваіх звычаяў, традыцый, рэлігійных веравызнанняў.

Сёння стала відавочным, што ніякія ўгаворы, на якія беларускія патрыёты патрацілі столькі сіл і часу на працягу многіх гадоў, не зрушаць гэтую праблему з мёртвай кропкі. Толькі такія рашучыя меры здольны гэта зрабіць. У гэтай сувязі ёсць падставы спадзявацца, што беларуская перадавая грамадскасць, перш за ўсё палітычныя партыі, падтрымаюць прапанову і выйдуць у Вярхоўны Савет з праектам яго правядзення для зацвярджэння ў заканадаўчым парадку. Адкладваць недапушчальна. Давайце будзем паважаць саміх сябе, не забываць пра нашых продкаў і быць адказнымі перад будучымі пакаленнямі. У рэшце рэшт павінен жа быць у нас нацыянальны гонар! Неабходна ўсвядоміць пагібельнасць нашай цяперашняй бяззубай палітыкі празмернай талерантнасці ва ўрон нацыянальнай духоўнасці. Сама па сабе такая рашучая актывізацыя культурнага руху будзе садзейнічаць узняццю духу нацыі, нацыянальнай самасвядомасці, энтузіязму і ініцыятыўнасці, а гэта, у сваю чаргу, будзе садзейнічаць павышэнню прадукцыйнасці працы і дзелавой актыўнасці ва ўсіх сферах дзейнасці. Мы павінны імкнуцца да таго, каб наша краіна ў бліжэйшы час наблізілася да ўзроўню развітых заходнееўрапейскіх дзяржаў і потым увайшла ў сузор'е краін Еўрапейскай садружнасці. У нашай нацыі ёсць для гэтага ўсе неабходныя дадзеныя.

г. Масква.

## Віншуем!

**5 жніўня споўнілася 75 гадоў вядомаму крытыку і літаратуразнаўцу Антону Семяновічу. «ЛіМ» віншуе юбіляра і зычыць усяго добрага. Семдзесят пяць—узрост, як кажуць, паважаны, самы час азірнуцца на пройдзены шлях, прайсціся ў думках дарогамі, якімі выпала ступаць у гады дзяцінства і юнацтва. А дарогі гэтыя ў Антона Аляксандравіча, як сведчаць і старонкі ўспамінаў, былі цяжкія, нават трагічныя.**

**Антон СЕМЯНОВІЧ**



# ПАЎНОЧНАЯ АДЫСЕЯ

ЗІМА 1930 года. Бурліць беларуская вёска, як і тысячы вёсак неабсяжнай савецкай імперыі. Галоўнае, што хвалюе сялян, — калектывізацыя. Селянін ніяк не мог даўмецца, чаму гэта ён павінен набытую сваім мазалём гаспадарку аддаць у калгас, працаваць там на кагосьці і чакаць, пакуль хтосьці злітуецца і дасць кавалак хлеба. Але партыйныя эмісары зноў і зноў збіраюць сходы, на якіх агітуюць людзей за калгас, за новыя формы гаспадарання. Калі ж угаворы не дзейнічаюць, пачынаюць запалохваць сялян, асабліва серадпякоў. Вельмі трапна падмеціў гэта Кандрат Крапіва ў паэме «Хвядос — Чырвоны нос»:

**Тут у Цімкавічах, помню,**
**Ў год вялікі, пераломны**
**Быў адзін галавацяп,**
**Запісаць як больш хацяб,**
**Лозунг кінуў ён такі:**
**«Ці калгас, ці Салаўкі».**
**І пайшлі, прасіцца сталі**
**Усе з мястэчка да душы:**
**«Дзядзя, мілы, запішы!»**

Такім метадам арганізоўваўся калгас і ў Шабунеўшчыне і навакольных вёсках (цяпер Дзяржынскі раён). Кулакоў жа ў калгас не прымалі, хаця ўсе яны падавалі адпаведныя заявы. Такую заяву падавала і наша сям'я, але вынік быў адмоўны. Значыць, нам наканавана зусім іншае — высылка. І хаця ўсе чакалі такога зыходу, аднак афіцыйнае паведамленне ашаламіла нас. Здарылася гэта першага сакавіка 1930 года, у суботу. Бяда прыйшла позна вечарам. Маці паклікалі да Пётры Галенчыка, нашага суседа, які быў членам сельсавета. Ён аб'явіў, што па рашэнні дэпутатаў сельсавета наша гаспадарка падпадае пад раскулачванне, а сям'я — на высылку. Сабрацца трэба да раніцы, бо раніцай прыбудуць падводы, якія павязуць нас на чыгуначную станцыю Фаніпаль. Прыйшла маці ад Галенчыка і сказала: «Усё, дзеткі, нас высылаюць. На зборы далі адну ноч. Раніцай павязуць у Фаніпаль». Я здзівіўся, як маці даволі спакойным голасам, без крыку, енку, плачу сказала гэтыя кароткія тры фразы. І калі сястра Настасся заплакала, загаласіла, маці даволі сурова абарвала яе: «Перастань! Плачам гору не паможаш. Не мы адны такія. Нешта ж будзе. Можа, дасць Бог, не загінем... Перастань плакаць і разам з Маняй сабірайце і пакуйце адзенне. Аркадзя і Іван, ідзіце ў хлеў і закаліце самага большага і гладкага парсюка. Ежы, сказалі, можна браць колькі хочаш, адзення таксама, усё гэта пойдзе багажом». Я сядзеў на лаве і сачыў за маці, за тым, як яна аддавала распараджэнні, што каму рабіць, усё больш і больш здзіўляючыся яе вытрымцы, самавалоданню. А яна ж хварэла сэрцам, часцяком піла валяр'янку, мучылася галаўнымі болямі. Бедная мама! Яна сабрала ўсе свае сілы, фізічныя і маральныя, нібы зацiснула ў кулак сваё хворае сэрца, таму што адчула вялікую адказнасць перад сваёю сям'ёю, бо бацькі ж не было. Яна разумела, што ёй нельга расслабляцца, трэба быць стойкай і не даваць прычыны другім для роспачы. Схіляю нізка галаву перад табой, дарагая матуля, перад тваёй мужнасцю, перад тваёй самаахвярнасцю ў імя выратавання сям'і. Да апошніх дзён маіх не знікне з маёй памяці твой мілы і дарагі вобраз, вобраз маці-заступніцы, вобраз Маці з вялікай літары. Няхай жа вечным пухам будзе твайму праху суровая паўночная зямля, якая прыняла цябе ў сваё лона ў 1934 годзе, калі табе толькі што споўнілася пяцьдзесят гадоў. І няхай вечны праклён будзе тым нелюдзям, па віне якіх ты і мільёны такіх, як ты, дачасна скончылі сваё жыццё ў далёкай ад роднага кутка зямлі.

Усю ноч мы сабіралі і пакавалі хатнія рэчы. Адзеннем напакавалі мяхі. Мяхі з мукою, аржаной і пшанічнай, зашывалі моцнымі суровымі ніткамі. Пад сала і мяса заколатага парсюка спецыяльна змайстравалі з тоўстых дошак скрыню. На ўсіх мяхах і скрыні напісалі свае прозвішча і хатні адрас. Да раніцы ўсё было спакавана і гатова да адпраўкі на чыгуначную станцыю. Аднак ні раніцай, ні ўдзень ніякіх падвод не было, яны прыбылі толькі назаўтра, у панядзелак. Такім чынам, яшчэ адзін дзень нам дазволілі пабыць у родным куце. Увесь гэты час — дзень і ноч — нас пільнавалі спецыяльна вылучаныя сельсаветам людзі, сельскія актывісты, каб, не дай Бог, мы не звезлі кудынебудзь частку свайго дабра альбо не патруцілі скаціну. У панядзелак некалькі саней прыехалі на наш двор, і мы пачалі складваць свой пажытак на сані-развалкі. У апошнюю хвіліну маці зняла з покуці абраз Божай Мацеры, загарнула яго ў кавал белага палатна, перахрысцілася і выйшла з хаты, каб ужо ніколі ў яе не вярнуцца. Не помню, ці праводзіў нас хто-небудзь з вяскоўцаў, суседзяў.

Выехаўшы з Шабунеўшчыны, абоз накіраваўся ў Балканы, на хутар шляхціца Банькоўскага, сям'ю якога таксама высылалі і сяліба якога стала зборным пунктам для высыльных сялян навакольных паселішчаў. На хутар прыбывалі ўсё новыя і новыя сані з высыльнымі, і праз некаторы час доўгі іх ланцуг накіраваўся ў бок станцыі Фаніпаль. Наперадзе гэтай журботнай калоны ехала мясцовае начальства ў шыкоўным, рэквізаваным у заможнага селяніна (кулака) вазку, запрэжаным прыгожым, стройным гнядым канём. Сярод начальства быў і толькі што абраны старшыня нядаўна створанага калгаса «Камінтэрн» (куды ўвайшла і Шабунеўшчына) Залман Мерын, камуніст, сын каваля, які нічога не разумеў у сельскай гаспадарцы, жыў у Койданаве, займаў там нейкую службовую пасаду. (Дарэчы, калгас і цяпер называецца «Камінтэрн»). Праз паўтары-дзве гадзіны былі ў Фаніпалі. Там было ўжо процьма народу, усе рыхтаваліся да пасадкі ў вагоны. Тут жа ў Фаніпалі мы сустрэліся з сям'ёй Валодзі і сям'ёй Серафімы, якіх таксама высылалі. У Валодзі было двое дзяцей: сямігадовы хлопчык Ваня і чатырохгадовая дзяўчынка Валя. У Серафімы таксама двое дзяцей: чатырохгадовая дзяўчынка Вера і двухгадовы хлопчык, імя якога не помню. Муж Серафімы Юшкевіч Аляксандр таксама быў тут, хаця яго як прымака, родам з беднай сям'і вёскі Лапцевічы, не высылалі. Аднак ён не захацеў кідаць жонку і дзяцей і вырашыў ехаць разам з імі на высылку. Развітацца з намі прыйшла на станцыю з Вязані наша стрыечная сястра Марыя Язэпаўна Навіцкая. Вагоны, таварныя, ці, як называлі іх, цялятнікі, падалі толькі пад вечар. Даволі хутка пагрузіліся і пад канвоем ваенных адправіліся ў невядомы шлях. Гэта было першае ў маім жыцці падарожжа цягніком, толькі, на жаль, не ў камфартабельным пасажырскім вагоне, а ў цялятніку. Як толькі ад'ехалі ад Фаніпаля, пачало псавацца надвор'е, пайшоў даволі спорны дождж, буйныя кроплі якога моцна барабанілі па жалезным даху вагона. У вагоне панаваў прыцемак, бо акон не было, былі толькі пад столлю дзве фрамугі, аднак яны не маглі даць належнага святла. Дзверы ж вагона адчыняліся толькі на станцыях. Калі вочы крыху прызвычаіліся да змроку, пачалі вырысоўвацца асобныя дэталі нашага часовага жытла на калёсах. У невялікім таварным вагоне змясцілі чатыры сям'і. Наша сям'я, якая налічвала сем чалавек, размясцілася на першым «паверсе» — на падлозе, налева ад вагонных дзвярэй; над намі, на нарах, атабарылася другая сям'я, здаецца, з шасці чалавек. Такім жа парадкам уладкаваліся яшчэ дзве сям'і направа ад дзвярэй. Сем'і Валодзі і Серафімы былі ў другім вагоне. Пасярод вагона знаходзілася чыгунная печка, дымавая труба якой выходзіла праз дах вагона на двор.

Першым прыпынкам нашым быў Менск. А пасля былі Віцебск, Вялікія Лукі, Цвер, Рыбінск, Вятка і, нарэшце, канцавая чыгуначная станцыя — горад Котлас Архангельскай вобласці. За Вяткаю маразы даходзілі ўжо да трыццаці градусаў. У вагоне ўвесь час палілася чыгунная печка, аднак яна не вельмі саграваля людзей: ля печкі было цёпла, нават горача, а сцены і столь вагона былі халодныя, пакрываліся інеем, асабліва шмат інею было ў кутках вагона. Падарожжа закончылася на шостыя ці сёмы дзень. Часовае жыллё было падрыхтавана на ўскраіне Котласа, на беразе Паўночнай Дзвіны, у вялізных халодных будынінах, у якіх да гэтага часу захоўвалася нарыхтаванае для арміі спрасаванае ў цюкі сена. У сярэдзіне былі змайстраваны шасціпавярховыя нары, на іх і пачалі размяшчацца «спецперасяленцы». У кожнай будыніне, а іх было, здаецца, тры ці чатыры, пасялілі па тры тысячы чалавек. Нашай сям'і дасталіся месцы на самых верхніх нарах, прыблізна пасярэдзіне будыніны; гэта якраз было і нядрэнна, бо ўверсе значна цяплей, а маразы былі яшчэ моцныя. Вось толькі лазіць на шостыя нары было цяжкавата і нязручна, асабліва пажылым людзям.

Дзесьці ў дваццатых чыслах сакавіка значную колькасць спецперасяленцаў пачалі вывозіць у горад Вялікі Усцюг, што недалёка ад Котласа. Помню, што нас прывезлі вечарам, калі добра сцямнела. Пачалі выгружацца каля царквы, што мяне крыху здзівіла: не маліцца ж мы сюды прыехалі. Аказваецца, царква гэта стала нашым новым прыстанішчам.

Назаўтра я выйшаў з царквы, каб крыху пазнаёміцца з новым месцам. Першае, што ўразіла, — гэта вялікая колькасць цэркваў у такім малым гарадку, прычым усе яны размешчаны недалёка адна ад адной на беразе ракі Суханы. Усе гэтыя цэрквы былі заселены спецперасяленцамі. Цэрквы былі двухпавярховыя: на першым паверсе маліліся жанчыны, на другім — мужчыны. Мы атабарыліся на другім паверсе, над намі ўзвышаўся царкоўны купал, а паветра тут было значна больш, чым на першым паверсе.

У Вялікім Усцюзе мы атрымалі і наш багаж: муку і сала. Стала нібыта крыху весялей. А да гэтага думалася ўсякае: ці багаж надоўга затрымаўся, ці зусім прапаў. Харчовыя прыпасы, якія ўзялі ў дарогу, ужо кончыліся, а паёк, што выдавалі нам кожныя тры дні, быў разлічаны толькі на тое, каб не памерці з голаду.

Праз некалькі дзён усіх дарослых мужчын, ад 18 да 45 год, адправілі пешшу на лесараспрацоўкі. У іх ліку апынуўся і наш Аркадзя. Валодзю не ўзялі па той прычыне, што ён выконваў абавязкі фельчара, а хворых было шмат. Прафесію гэтую ён набыў у час Першай сусветнай вайны, калі яму давялося служыць у царскай арміі. З пісьма Аркадзі стала вядома, што ішлі яны пешшу чатырыста кіламетраў і ўсё па лясных дарогах. На канечным пункце ім сказалі, што вось тут, у гэтым лясным масіве, яны павінны ў вельмі кароткі тэрмін пабудаваць баракі, у якіх і будуць жыць разам са сваімі сем'ямі.

А між тым жыццё ў царкве працягвалася. Прыбыўшы харч падмацаваў нашы сілы. Маці ўся была ў клопатах пра сям'ю, пра тое, каб мы, яе дзеці, былі накормлены. Кожны дзень яна варыла з аржаной мукі зацірку, пякла праснакі, часам з пшанічнай мукі гатавала мачанку. Хутка бяда абрынулася на Валодзеву сям'ю: захварэла яго чатырохгадовая дачушка Валя. Яна, мабыць, прастудзілася, бо ў яе было запаленне мазгавой абалонкі. Праз некалькі дзён яна памерла. Памерлі і двое дзетак Серафімы. Дарэчы, кожны дзень з нашай царквы выносілі труны дзяцей, таксама як і з другіх цэркваў. Колькі іх, бедных дзетак, нявінных ахвяр сталінскага эксперыменту, засталося ў суровых краях Поўначы, Сібіры, Далёкага Усходу! Колькі слёз праліта мацяркамі над іх магілкамі! Колькі не далічылася наша шматпакутная беларуская зямля сваіх сыноў і дачок!

Каб нейкім чынам змякчыць сваё злачынства ў вачах галоўным чынам сусветнай грамадскай думкі, тагачасныя ўлады вырашылі адпускаць дзяцей да дзесяці год дадому, толькі для гэтага патрэбен прыезд чалавека і яго пісьмовая згода ўзяць тое ці іншае дзіця на сваё ўтрыманне. Валодзя адразу ж напісаў у Шабунеўшчыну пісьмо нашаму суседу Лішаю Паўлу — мужу роднай сястры Валодзевай жонкі Надзеі з просьбай прыехаць сюды і забраць мяне і маю сястру Лёню, каб потым аддаць нас родзічам у Стаўбуновічы і Крупіцу. Пасведчанняў аб нараджэнні дзяцей у большасці высыльных не было, а ў каго і быў такі дакумент, то калі хлопчыку ці дзяўчынцы было крыху больш за дзесяць гадоў, дык яго не паказвалі начальству. Напрыклад, у мяне было такое пасведчанне, я ўзяў яго ў раённым ЗАГСе для паступлення ў Койданаўскую сямігодку. Мясцовыя вялікаўсцюжскія ўлады вырашылі ўтварыць пры райвыканкоме спецыяльную камісію, якая б па знешнім выглядзе дзіцяці вызначыла яго ўзрост. Вельмі добра помню той дзень, калі маці павяла мяне і Лёню на гэтую камісію. Калі мы прыйшлі ў будынак райвыканкома, там ужо было шмат дзяцей са сваімі бацькамі. Мы занялі чаргу і сталі чакаць. Гадзіны, мабыць, праз дзве апынуліся ў пакоі, дзе засядала камісія з трох чалавек. Старшынёй камісіі была жанчына гадоў трыццаці, яна, мусіць, займала нейкую пасаду ў райвыканкоме. Калі жанчына спытала ў мяне: «Сколько тебе лет, мальчик?», я адказаў: «Дзесяць». Яна нічога больш не пытала, толькі, звярнуўшыся да членаў камісіі, запытальна-сцвярджальна сказала: «Согласимся?». Жанчына прамовіла некалькі слоў да сакратаркі, што сядзела за асобным столікам побач з камісіяй, з якіх я зразумеў, што яна дае загад аформіць на мяне адпаведны дакумент. Потым яна выйшла з-за стала (мусіць, ёй абрыдзела ўжо сядзець), падышла да мяне, уважліва паглядзела мне ў твар, у вочы сваімі, як мне падалося, светла-блакітнымі добрымі вачамі, сказала, як бы звяртаючыся да ўсіх прысутных: «А из этого мальчика может вырасти достойный человек, настоящий коммунист. Пусть едет на свою родину». Словы гэтай чалавечнай жанчыны я запомніў на ўсё жыццё. Думаю, што ад яе залежала, ехаць мне на радзіму ці не, бо па знешнім выглядзе мне можна было даць больш (у сапраўднасці мне было тады дванаццаць год і дзевяць месяцаў). Я часта з глыбокай удзячнасцю ўспамінаю гэтую добрую рускую жанчыну, бо каб не яна, то я застаўся б там, на Поўначы, і лёс мой склаўся б, напэўна, зусім інакш. Не стаў я членам камуністычнай партыі, аб чым зусім не шкадую, аднак дастойным чалавекам сябе лічу. Даволі хутка прайшла камісію і сястра Лёня.

У канцы красавіка нарэшце атрымалі пісьмо з Шабунеўшчыны ад Паўла Язэпавіча Лішая, які паведамляў, што дзесьці пасля дзесятага мая ён прыедзе па мяне і Лёню. З нецярпеннем чакалі яго прыезду. І вось нарэшце ён паявіўся, гэты былы «амерыканец», які ездзіў на заробкі ў ЗША яшчэ ў часы царызму і якога выправадзілі адтуль, калі пачалася рэвалюцыя ў Расіі. Даволі хутка аформілі праз Вялікаўсцюжскі раённы аддзел НКУС неабходныя дакументы на выезд.

Ідучы па трапу на параход, я ўсё аглядваўся, каб яшчэ і яшчэ раз убачыць мілыя абрысы самага дарагога на свеце чалавека — роднай маці. Калі ўзышоў на параход, то крышку затрымаўся ля параходных поручняў з надзеяй апошні раз убачыць маці, і на нейкі момант я ўбачыў яе. Сэрца маё сціснулася ад жалю, на вачах выступілі слёзы.

# ХТО АБАРОНІЦЬ ЛІТАРАТУРНАЕ КРАЯЗНАЎСТВА?

Ва ўмовах уніфікацыі і стандартызацыі, страты рэспублікай міжнароднага статуса і самастойнасці, ператварэння ўсёй Беларусі ў правінцыю ў гады сталінізму, валюнтарызму і застою краязнаўства развівалася слаба. Цяпер мы бачым, як патрэбна вяртанне да жыватворных традыцый 20-х гадоў, калі яно выступала самай дэмакратычнай сферай гістарычнай навукі. У наш час ужо зроблены захады, каб аднавіць ранейшы статус і ролю краязнаўства ў развіцці гуманітарнай адукацыі. Так, у студзені 1990 года адбылася трохдзённая навукова-практычная канферэнцыя, што аб'явіла сябе ўстаноўчым з'ездам, які на базе краязнаўчай камісіі пры Беларускім фондзе культуры утварыў Беларускае краязнаўчае таварыства, прыняў яго статут.

Праз некаторы час старшыня БКТ Г. Каханоўскі ў інтэрв'ю пад назвай «Ніва нашага патрыятызму» («ЛіМ», 1990, 19 кастрычніка) больш падрабязна расказаў аб праблемах таварыства ў рэспубліцы. І аб гісторыі, геалогіі, геаграфіі, нумізматыцы, геральдыцы, аб радаводзе, што ўваходзяць як састаўныя часткі ў краязнаўства, вывучаюцца паасобку, у гэтых матэрыялах гаварылася шмат.

Аб праблемах жа літаратурнага краязнаўства, на жаль, на канферэнцыі нават і размовы не заходзіла. У сувязі з гэтым вельмі шкадую, што не трапіў на тую канферэнцыю, што не змог засярodзіць увагу на тым, які размах павінна прыняць краязнаўчая работа, чаму назіраецца відавочны спад літаратурнага краязнаўства ў рэспубліцы, змяншаецца колькасць энтузіястаў гэтай справы, захоўваецца няўвага да яе з боку вучэбных устаноў, грамадскасці і ўлады.

Даўно шукаю нагоды выказаць тое, што назапасілася на працягу больш чым дзесяцігадовай практыкі па кіраўніцтве праблемнай навукова-даследчай міжкафедральнай студэнцкай лабараторыяй па літаратурным краязнаўстве, якая існуе на базе кафедры літаратуры ў Мінскім інстытуце культуры. Лабараторыя была створана па ініцыятыве кафедры літаратуры, навуковае кіраўніцтва ёю работай ажыццяўляў прафесар М. Грынчык, у мае абавязкі ўваходзіла навуковае кансультаванне студэнтаў.

Не затраціўшы ніводнага рубля грошай і ніводнай гадзіны вучэбнага часу, мы здолелі за папярэднія гады ахапіць каля 1200 студэнтаў, якія выканалі каля 800 тэм, правялі вялікую збіральніцкую і пошукавую работу па вывучэнні родных мясцін беларускіх пісьменнікаў, «літаратурных гнёздаў», узаемасувязей беларускай і іншых літаратур свету, па апісанні літаратурных мясцін рэспублікі, па складанні маршрутаў падарожжаў на яе літаратурнай карце ў раённым, абласным і рэспубліканскім маштабе. Цяпер патрабуе далейшай апрацоўкі і асэнсавання назапашаны вялікі архіў на тэму «Беларусь на літаратурнай планеце (Літаратурныя мясціны на тэрыторыі рэспублікі, звязаныя з лёсамі беларускіх пісьменнікаў і фалькларыстаў і пісьменнікаў свету)».

Рэальным з'яўляецца стварэнне на базе кафедры літаратуры інстытута культуры аўтарскага калектыву і рэдакцыйнай калегіі па падрыхтоўцы да выдання ілюстраваных кніг літаратурна-краязнаўчых нарысаў, а потым—аб'ёмнай работы «Беларусь літаратурная», якія давалі б экскурсійна-турыстычнае апісанне літаратурнай карты кожнай вобласці і рэспублікі. У нас назапашаны матэрыял для выдання 5-томнай анталогіі мастацкіх твораў сусветнай літаратуры (ці фрагментаў з іх), якія прысвечаны лёсу беларускага народа пад умоўнай назвай «Беларусь у сусветнай літаратуры» з жанравым падзелам тамоў па паэзіі, прозе, драматургіі і публіцыстыцы.

Аднак стварыць такое унікальнае даведачна-інфармацыйнае выданне можна толькі агульнымі намаганнямі творчых арганізацый, навукова-педагагічных і даследчых устаноў, разнастайных перыядычных выданняў і выдавецтваў. Такі вопыт ужо ёсць. Пры ўдзеле членаў літаратурна-краязнаўчай лабараторыі ў выдавецтве «Мастацкая літаратура» да 45-годдзя перамогі над фашысцкай Германіяй выйшла кніга выбранай паэзіі «І ўспомнім былыя паходы» (Мн., 1990), дзе прадстаўлена творчасць 125 паэтаў розных нацыянальнасцей—франтавікоў, партызан і падпольшчыкаў перыяду Вялікай Айчыннай вайны, якія змагаліся на тэрыторыі Беларусі ў 1941—1945 гг., вызвалялі нашу рэспубліку ад фашысцкіх захопнікаў, прысвяцілі ёй свае творы.

У нас сабраны матэрыял, неабходны для выдання трохтомніка творчасці пісьменнікаў, якія ваявалі на тэрыторыі Беларусі з нямецка-фашысцкімі захопнікамі. Прадаўжаем распрацоўваць тэму, звязаную з далейшым адшуканнем літаратурных мясцін на тэрыторыі Беларусі, якія ўзніклі ў час Вялікай Айчыннай вайны. А колькі літаратурных мясцін на тэрыторыі Беларусі можна адшукаць у сувязі з прыездамі шматлікіх пісьменнікаў з розных куткоў краіны ў пасляваенны перыяд?! Студэнтамі распачата падрыхтоўка да стварэння серыі бібліяграфічных даведнікаў аб беларускіх пісьменніках і пісьменніках свету, якія звязаны сваім лёсам і творчасцю з нашай рэспублікай.

Я даўно, але безвынікова б'ю трывогу, што вельмі слаба ўкараняецца літаратурна-краязнаўчая тэматыка ў вучэбным працэсе інстытута, што на ўсіх факультэтах, у тым ліку і завочным, яна не знаходзіць месца ў планах кантрольных, курсавых, дыпломных і конкурсных работ.

Ненармальна, што незабяспечаны неабходны ўзровень выкладання літаратурнага краязнаўства ў ВНУ, больш таго, вучэбныя планы наогул не прадугледжваюць такога курса, адсутнічае, зразумела, і праграма яго выкладання. А ці не варта зрабіць курс па літаратурным краязнаўстве нарматыўным, увесці яго як стабільную дысцыпліну? Увесці здачу экзамена ці заліка? У крайнім выпадку могуць быць спецкурсы і факультатыўныя курсы, якія звярталі б увагу студэнтаў на пытанні методыкі літаратурна-краязнаўчага даследавання, фарміравання навыкаў работы з крыніцамі.

Аналагічная сітуацыя склалася і ў падрыхтоўцы падручнікаў, вучэбных дапаможнікаў. Зноў жа прапаноўваю прадставіць праграмы і прыступіць да напісання дапаможніка «Літаратурнае краязнаўства Беларусі».

Гэта важна зрабіць яшчэ і таму, што вялікі сэнс краязнаўчая работа мае не толькі ў гуманітарных ВНУ, на факультэтах філалагічных ВНУ ці ВНУ культуры і мастацтва, музыкі. Ёсць патрэба зрабіць яго ў кантэксце агульнага літаратуразнаўства нарматыўным і ў ВНУ вытворча-тэхналагічнага і народна-гаспадарчага профілю.

Шкада, але пакуль што няма ні кандыдацкіх, ні доктарскіх дысертацый па літаратурным краязнаўстве, а гэта ўскладняе падрыхтоўку адпаведных высокакваліфікаваных спецыялістаў. Кафедрамі не прадугледжваюцца канкрэтныя меры па распрацоўцы асноў навуковай работы, пытанняў тэорыі і практыкі літаратурнага краязнаўства, навукова-метадычнага забеспячэння масавага літаратурна-краязнаўчага руху. Наспела патрэба аднавіць навукова-папулярны літаратурна-краязнаўчы часопіс «Наш край», які выходзіў у 1925—1930-х гадах у Мінску. Вывучэнне літаратуры немагчыма зараз без асваення мясцовага гісторыка-краязнаўчага і літаратурна-краязнаўчага матэрыялу, які садзейнічае выхаванню сапраўднага філолага, чытача-патрыёта. Зараз у сувязі з рэформай агульнаадукацыйнай школы асабліва востра паўстае неабходнасць увесці ў праграмы сярэдняй школы выкладанне літаратурнага краязнаўства з асновамі экалогіі і аховы помнікаў культуры, шырэй ствараць гурткі па гісторыі і прыродзе свайго раёна, вёскі, вобласці, рэспублікі, па вывучэнні літаратурнай карты мясцовасці. І вельмі шкада, што на рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі «Шляхі ўдасканалення літаратурнай адукацыі», якая адбылася ў Мінску 12—13 лістапада 1991 года і дзе абмяркоўвалася новая «Канцэпцыя літаратурнай адукацыі ў сярэдняй школе», гэты аспект не ўлічаны.

Мы ў стане падрыхтаваць «Літаратурную карту Рэспублікі Беларусь». Чаму мы надаём ёй такое вялікае значэнне? Неабходнасць у яе стварэнні паўстае ў тым плане, што яна павінна даць першапачатковае элементарнае ўяўленне аб рэгіянальнай дыслакацыі агульнарэспубліканскага мастакоўскага працэсу. У яе будуць уключаны літаратурныя карты этнаграфічных і геаграфічных зон рэспублікі, абласцей і раёнаў. Будзе сказана аб тэрытарыяльным размеркаванні месц, адкуль паходзяць таленты. Трэба апісаць родныя мясціны пісьменнікаў, прааналізаваць вытокі іх творчасці, іх удзел у сталічных арганізацыях, прадстаўніцтва ў СП Беларусі. Пара стварыць такія ж рэпрэзентатыўныя «Атласы па беларускай літаратуры і фальклоры», якія потым увойдуць як састаўныя часткі ў літаратурны атлас Еўропы.

Сёння літаратурнае краязнаўства набывае вялікае значэнне ў рамках адраджэння культурнай самабытнасці нашых уласных правінцый—абласцей, гарадоў, раёнаў, вёсак. Таму патрэбна зрабіць усё для таго, каб ажывіць літаратурна-краязнаўчую работу ў рэспубліцы.

Літаратурна-краязнаўчы аспект усё больш настойліва просіцца ў нашу дзейнасць. Тут трэба праявіць надзвычайную вынаходлівасць, настойлівасць, працавітасць і прадпрымальніцтва. Мы ў стане ўзяць на сябе абавязкі каардынацыйнага цэнтра рэспублікі ў галіне літаратурна-краязнаўчай работы ВНУ, навукова-даследчых устаноў, якія займаюцца агульным, гістарычным краязнаўствам. Лічу мэтазгодным неадкладна адкрыць літаратурна-краязнаўчую секцыю ў рамках Беларускага краязнаўчага таварыства і прашу залічыць нашу лабараторыю ў свой актыў і надаць нашай рабоце большы разгон.

**Міхась НЯХАЙ,**
**дацэнт кафедры літаратуры Мінскага інстытута культуры, навуковы кансультант Праблемнай навукова-даследчай студэнцкай міжкафедральнай лабараторыі па літаратурным краязнаўстве.**

**Марцін КОЎЗКІ**

## ДОЛЯ ПРАЎДЫ

**Як выяўляецца, «Белаз» і «Беларусь» не прадстаўлялі цалкам Беларусь, стаяла марка «Мейд ін Беларусь» на зброі і на нейкім іншым гнусе.**

●

**Іду па вуліцы Урыцкага ўздоўж засценка бальшавіцкага. Невыпадкова на Апанскага турма са славаю паганскаю. Як гімн ЧК ад кліру мінскага, гучыць назоў «праспект Дзяржынскага». (Калі б не змянілівая слава, была б і вуліца Цанавы, ды зжор павук адзін другога — двум паўкам адна дарога). Не хачу жыць на вуліцы Урыцкага, не хачу жыць на вуліцы Апанскага, не хачу на тым праспекце жыць! Можна неяк прыхаваць краты, але як забыць Курапаты, ды ці толькі ў іх стогн ахвяр не сціх?**

●

**Часам яшчэ ваяводы спявалі, што выйшлі з народа, памалу напеў сціх — народ адвярнуўся ад іх. Вісіць, праўда, над магазінамі «Народ і партыя адзіныя», ды то не без дай прычыны, спусцілі ўжо магазіны.**

●

**Я слоўнікі, мабыць, гартаю дарма: «нахімавец» ёсць, «нахімічыць» няма. Ці чуў мовавед заўзяты пра слова такое «нітраты»? Ці хоць бы прыпеўку пра хімію, ад якое ўсё нешта сіняе? Дакладна сказаць цяжкавата — няма і слова «нітраты», няма адкуль запазычыць, хіба адно «нахімічыць».**

●

**Ад музыкі абараняю верш, бо вершу цішыня патрэбная найперш. Абараняю верш ад спевака —ямy для песенькі хапае радка. Я з публікай за верш гатовы ваяваць — ёй трэба верш пад рэп, пад рытм, каб паскакаць. Сам верш — мелодыя, нашто яе шукаць, падумай добра верш, раней, чым песняй стаць.**

●

**Заснавальнікі фондаў і акадэмій, аўтары новых скрыжаляў, утворым Міжнародныя Брэжнеўскія прэміі за кнігі, што вы не пісалі. Абумовім адно выключэнне: лаўрэаты Брэжнеўскіх прэмій не прэтэндуюць на прэміі імя Леніна.**

●

**Нам патрэбны свае перадачы пра багатых, якія плачуць, пра далёкія пальмы і лаўры, дзе трываюць рабыні Ізаўры, пра семнаццаць славутых імгненняў у жыцці разведчыкаў-геніяў. Хай бы у кожным з тых серыялаў сэрца ёкала і замірала. Забываюцца нашы нястачы, як такія глядзіш перадачы.**

●

**— На рынку,— гаварыў мне дзед Няфёд,— нярэдка блытаюць прыкметы, але чамусь, як даражэюць кветы, то даражэе й штучны мёд.**

●

**Калі ведаеш, як мусяць хадзіць фігуры, шахматы ўжо не такая мудрагелістая гульня. Ды ці толькі шахматы.**

●

**Выстаўка сабак і кошак — гордасці людзей. А няма сабак і кошак, забірай дзяцей у кошык — выставім дзяцей. «Куды вы — скажуць,— дзівачкі, без кошачкі ці сабачкі?» А мы ім скажам: «Вар'яты, у нас шчэ лепшыя экспанаты».**




Заснавальнікі:
САЮЗ ПІСЬМЕННІКАЎ БЕЛАРУСІ
І МІНІСТЭРСТВА КУЛЬТУРЫ
РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

**Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах**
**Друкарня «Беларускі Дом друку».**

**АДРАС РЭДАКЦЫІ: 220600, ГСП, Мінск, вул. Захарава, 19.**

**Тэлефоны: прыёмная рэдакцыі — 33-24-61; намеснік галоўнага рэдактара — 33-25-25; адказны сакратар — 33-19-85; аддзел публіцыстыкі: Міхась ЗАМСКІ — 33-19-65; аддзел пісьмаў і грамадскай думкі: Людміла КРУШЫНСКАЯ, Марыя ГІЛЕВІЧ — 33-19-85; аддзел літаратурнага жыцця: Алесь МАРЦІНОВІЧ — 33-24-62; аддзел крытыкі і бібліяграфіі: Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ — 33-22-04; аддзел літаратуры: Юрась СВІРКА — 33-22-04; аддзел музыкі: Святлана БЕРАСЦЕНЬ — 33-21-53; аддзел тэатра, кіно і тэлебачання: Жана ЛАШКЕВІЧ — 33-21-53; аддзел выяўленчага мастацтва і аховы помнікаў: Пётра ВАСІЛЕЎСКІ — 33-24-62; аддзел навін: Віталь ТАРАС — 33-19-65, Юрась ЗАЛОСКА — 33-22-04; аддзел мастацкага афармлення: Уладзімір ТАБУШАЎ — 33-44-04; фотакарэспандэнт Уладзімір ПАНАДА — 33-24-62; бухгалтэрыя — 26-86-40.**

Пры перадруку просьба спасылацца на «ЛіМ». Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе. Пазіцыя рэдакцыі можа не супадаць з думкамі і меркаваннямі аўтараў публікацый.

**Нумар падпісаны ў друк 6.08.92 у 18.10.**

**Галоўны рэдактар Мікола ГІЛЬ.**

**Рэдакцыйная калегія:**

**Заір АЗГУР, Алесь АСІПЕНКА, Анатоль БУТЭВІЧ, Анатоль ВЯРЦІНСКІ, Андрэй ГАНЧАРОЎ (нам. галоўнага рэдактара), Уладзімір ГНІЛАМЕДАЎ, Лілія ДАВІДОВІЧ, Міхась ДРЫНЕЎСКІ, Алесь ЖУК, Галіна КАРЖАНЕЎСКАЯ, Ігар ЛУЧАНОК, Уладзімір НЯКЛЯЕЎ, Нічыпар ПАШКЕВІЧ, Барыс САЧАНКА, Юрась СВІРКА, Рычард СМОЛЬСКІ, Уладзімір СТАЛЬМАШОНАК, Віктар ТУРАЎ.**

**Адказны сакратар Барыс ПЯТРОВІЧ.**

**Індэкс 63856**
**Тыраж 18068**

**П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**
**М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12**